НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# ГІСТАРЫЧНЫ **СЛОЎНІК** БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

ВЫПУСК 24

**Паприца — Побужоный**

Мінск
«Беларуская навука»
2005

УДК 811.161.3’374.3
ББК 81.2 (Беи-4)
Г 51

Пад рэдакцыяй А. М. Булыкі

Памочнік рэдактара З. К. Турцэвіч

Складальнікі:

А. М. Булыка (паростка — пахнучий,
переемъ — перестатье, песенка — письмо),
Р. С. Гамзовіч (питавший — плебания),
А. П. Груца (перестереганый — перярхъ),
І. І. Крамко (пахнущий — первоосветченый,
плебановый — плюгавство),
Л. І. Рабаданава (первописаный — переезный),
З. К. Турцэвіч (паприца — паросникъ),
А. Р. Хромчанка (плюдерки — побужоный)

Рэцэнзенты:

канд. філал. навук П. А. Міхайлаў
канд. філал. навук В. І. Уласевіч

ISBN 985-08-0631-1

# П

**Паприца, парплица, повприца, полприца, полпрыца** *наз. Шворан у жорнах ці ў лемяшы.* взято отъ каменя полприца и два молотки, што жорны куютъ (АВК, XVII, 439, 1563); камень жорновый верхний узверненъ, железа, повприцы и веретено вынято (АВК, XXII, 241, 1565); веретено млиновое и паприца въ томъ же свернѣ — бо се одинъ млынъ попсовалъ (АСД, III, 239, 1571); жорновые камени два, до того млына железо: веретено, сопли два, парплица, обручи два, упуст старый (АВК, XIV, 412, 1591); ты ... взял и пограбил еси ... лемеш на оране с повприцою (АВК, XXX, 469, 1613); железа млынские — веретено, обручы чотыры, полпрыцу и железные завесы ... покралъ (АВК, XVIII, 320, 1631); За работу того веретена парплицы ковалю Павлу заплатили золот. одинъ (ИЮМ, IV, 229, 1686); За насталеване и навареване клевцовъ веретена и полпрыцы ... заплатили ковалю (ИЮМ, X, 154, 1695).

**Папуга** *наз. Папугай.* Ижота прыимала ударцы в сэрце свое и была блѣда, ꙗкъ папуга (Трыст., 81); Миколай Жишъка ... учынившы шкоду, то есть папугу ... ночнымъ обычаемъ на ночлегу у Вороней Горы ... украдшы, з витины утеклъ ... при которой папузе и иншыхъ речей бардзо много забралъ (АВК, XX, 118, 1596); папꙋга и*ж* еи хто*с* бы*л* та*к* наꙋчи*л*, або з ꙗкои справы бозскои в[s] ѡкне взывала ѡныи слова (Бельск., 373б).

**Папужый** *прым. Пярэсты, рознакаляровы, стракаты.* жупан атласовый, папужый с потребами сребными (АВК, XXXIV, 296, 1663).

**Папуть, папуць** *наз. Туфель.* папути двое, бачмаги (АСД, I, 251, 1616); тижмы бачмакги, папуте (Там жа, 252); при тѣли те*ж* ничогосмо з веще[s] не на[s]шли, кроме того же тылко кошꙋля его была и то всꙗ подранаꙗ, а папꙋ*ц* ѡде*н* (Дыяр., 178б); папуце павиненъ священникъ кождый мети до служенія особныи (АЗР, V, 204, 1687).

**Папуша, попуша** *наз. Мера колькасці тытуню.* Папушу тытюню, што жолнеры взяли (ИЮМ, X, 122, 1695); купили тютюну папушъ 10 (ИЮМ, XVIII, 49—50, 1710); тютюну попушъ 10 за 2 зол. (Там жа, 50); табакъ въ Могилевѣ 1 папуша 6 гр. (ИЮМ, XX, 54, 171).

**Пара I** *наз.* **1.** *Пара, выпарэнні; туман.* послати на них множество недведеи, или лютые львы, или незнаемые и гневу полные звери, или пару огнивую дыхающую, или дымныи смрадъ выдавающе (Скар. ПБ, 17—17б); выпѹстил нептѹнѹс бог морскиѕ велерыба з воды на землю которыѕ людеѕ пожирал и заражал парою моровою (Бельск., 78б); зѕ которых шкодливаѧ и заразливаѧ пара повставши, до мозкѹ приходит, и заражаеть (Каліст, I, 74б); якъ пара земная вѕ часъ холодный променми сл҃нчными потѧгана до сл҃нца бываеть, такъ и справедливаѧ дш҃а вѣрою и любовію потѧгнена идетѕ кѕ Бг҃ѹ (Каліст, II, 27б); парою ѡт ѡфѣр самое сѧ тежъ повѣтре заражало (Варл., 265); пара, албо мгла выходила з земли и покропѩла все ѡбличе земли (Выкл., 4б); чл҃вкъ ... лацное до ѹпадкѹ подношене, ѹбеспечене, снадне ѹловленое: болото взгоржоное, пара сѹптелнаѧ, порох назбыт выхваленыѕ (Зб. 82, 126).

**2.** *Дыханне; выдых.* Бѫдет ли сліание желоудково стоудено ... и сказѧсѧ в нѣм ествы грѹбые. пара кислаѧ. и боудет ити емѹ горлом (Арыст., 188); Дѹхъ: дыханѕе, оддѹхъ, дыханѕе, дышенѕе, албо пара (Бяр., 37). // *перан.* надъ вси речи движущиесѧ прудшаѧ есть мудрость. Досѧгаеть всю да чистоты ради своеѧ, пара ѹбо есть силы божиеи (Скар. ПБ, 12).

**3.** *Дым.* Авель, через Ге напочаткѹ: ... сѵрски, Пара, або каджене, дымъ, або марност (Бяр., 223).

**Пара II** *наз.* **1.** *Дзве істоты, два прадметы, дзве штукі чаго-н.* елисеѕ ... вернѹвшисѩ забил парѹ волов с плѹга, а ѹварил дровами зрѹбавши плуг (Бельск., 121б); там же его ѡбычаем звыклым, в шатах кнѩжачих, з шаблею з конем и слѹгою навернѣѕшим и с парою хортов и соколом ѹчтиве з великою жалостю спалили (Стрыйк., 529б); Алеѯандеръ мѣл слонов тисечу котории золото его носили, а ѹ возовъ всѣх, з косами ѡстрими приправленых а в҃і сотъ паръ езъдных (Алекс., 27); соезъники изъ сохами зъ дому его згинули, соезниковъ паръ три (АВК, XVIII, 334, 1639); ажебы тежъ ѡтдали ѡфѣрѹ ведлугъ ѡписанѩ в законе гд҃нимъ парѹ, парѹ синогарлицъ [!] або двое голѹбѩт молодых (Зб. 752, 524). ◊ П о п а р ѣ — *па двое.* иле есть оуписнои Братіи вси сполнѣ по парѣ перед гробомѕ цвѣтноѹбраные, поважнымѕ порѧдком идѹчи (Ст. бр., 18б).

**2.** *Дзве асобы: мужчына і жанчына; дзве жывёліны: самец і самка.* то юж была ... едэнаста пара люди з дому их ходкевичовского, приходечи до споминовацэнѧ з домэм радивиловским (Еўл., 15); зо всѣх звѣрѧт возмешъ по парѣ для рожаю абы не гинули самецъ и самица (Біблія, 24); березѹс пише в книгах иж уставично по паре родили дѣте[s] за кождым роженем мужчизна и женскаѧ плот (Стрыйк., 415б); Супругъ: Пара (Бяр., 161); Если было приказане, теды было ѡнои паре людеи на початку света, и внет по потопе килка паромъ потомства ноева (Выкл., 3б).

**3.** *Касцюм (верхняя і ніжняя часткі).* измѣна рызъ — пара шатъ (Зіз., 37); надавал им возов, гроше[s], коне[s] ѡслов и шат кождому по парѣ (Бельск., 32б); Измѣна рызъ: Пара шатъ (Бяр., 55).

**4.** *Некалькі штук, невялікая колькасць чаго-н.* ка[s]данови цареви парѹ стрѣл мѣсто золотых кле[s]нотов послал (Стрыйк., 518); послы царѹ ка[s]дану ѡную зѹфалѹю ѡтповед радивиловѹ и ѹпоминки парѹ стрѣл ѡтдали (Там жа, 518б); Треба тежъ до службы Б҃жой, слѹжебнѣка, Крижа, на олтарѹ, и парѹ свѣчъ (Зб. вып., 30б).

**Парабокъ** *гл.* паробокъ

**Параболе** *наз. Тое, што і* параболюмъ. книги ... первые рекомые Параболѣ то суть притчи (Скар. ПС, 2).

**Параболюмъ** *наз. Прытча, іншасказанне.* тая исторія о богатомъ и о Лазари не самою речю была, але параболюмъ, то есть приповѣстъ (Пыт., 64). *Параўн.* параболе.

**Параграфъ** *гл.* паракграфъ

**Парадигма** *наз. Прыклад.* Зводъ: Преписъ, форма, переписъ, перекладъ, копѣѧ. архетѵпон, антіграфон, парадигма, апографонъ (Бяр., 212).

**Парадитися** *гл.* порадитися

**Парадный** *прым. Парадны, прызначаны для ўрачыстых выпадкаў.* они ... двадцать и чотыри мушкетовъ у себе у цеху своемъ швецкомъ парадныхъ мѣли (АСД, I, 311, 1640).

**Паракгностиконъ** *наз. Факт адступніцтва, адхілення ад чаго-н. ранейшага.* на которомъ то синодѣ ѧко митрополитъ и з[s] ѡтстоупными владыками до даньѧ о собѣ справы былъ призываный достатечне описалосѧ в[s] книжках которым тітоул есть ѡт наших даный ектезисъ в[s] которыхъ и трое паракгностикон, которыми былъ в той мѣре объвѣщонъ выписано (Апакр., 71).

**Паракграфъ, параграфъ, парокграфъ** *наз. Параграф, пункт.* о потребе родичовъ другий паракграфъ въ томъ артыкулѣ опи-

суеть (АВК, II, 240, 1580); Могло се дей то тежъ стать и самымъ паномъ Рудоминою: ижъ хотечи о фальшъ пана Бокея приправити и о злое мниманье до людей, тотъ дей паракграфъ а у концу приписалъ (АВК, VIII, 445, 1588); мы тые долбутишскии закупили были будованя, а ижъ се вышей у в одномъ параграфе при ствержанью листов того не доложили (АВК, XXXI, 127, 1592); не мовечы жадного слова ку листу, печатям, ани до жадного парокграфу в ним описаного ... через возного або слугу врадового маю и повинен буду становитися (АВК, XXXII, 73, 1596); тогды того*ж* знов*ꙋ* ю*ж* полски*м* ꙗзыко*м* повторено и меновите тыи два паракграфы в^s^ Ко*н*стит*ꙋ*ціи впісано (Апакр., 24б); тотъ прывилей одъ короля Его млсти Стефана, имъ даный, вышей описаный, во въсихъ паракграфахъ и властъностяхъ, пры моцы зоставуемъ и утверъжаемъ (ИЮМ, I, 355, 1619); тотъ листъ ... во всихъ его пунктахъ, параграфахъ и кондиціяхъ ствержаемъ (АЗР, V, 2, 1633); сей декретъ и интродукцію во всехъ пунктахъ и параграфахъ ствержаемъ (АСД, I, 282, 1644); ферованы декрет во всих пунъктахъ и паракграфахъ в нем выражоных утвержаемъ (АВК, XXXI, 450, 1679).

**Параклиитъ** *гл.* параклитъ

**Параклитики** *наз. Грэчаская назва адной з царкоўных кніг.* Октѡихъ: Осмогласни*к*, е*л*: параклитики. Книга. (Бяр., 300).

**Параклитовъ** *прым. ад* параклитъ. еднак^s^ же збаве*н*наѧ мова доткн*ꙋ*лася ср*д*ца его, и ласка Параклитова, д͠шевные очи его ѡ*т*творяти почала (Варл., 31б).

**Параклитъ, параклиитъ** *наз. Заступнік; памочнік (у царкоўным значэнні яшчэ Дух святы).* вы хв͠ы наслѣдници покою ... заживайте тоежъ держачи ꙗкъ и споча*тк*ꙋ. И ходѧчи ѡ*т* славы в^s^ слав*ꙋ* оутвержаючисѧ д͠хомъ параклітомъ исходѧщимъ ѡ*т* ѡ*т*ца ꙗкъ наоучилъ б͠жій единородный с͠нъ и слово (Апакр., 191б); Ап*с*толове маючіи Параклита не были зо всихъ мѣръ безпечны, при радости абовѣмъ и веселіи, былъ стра*х* и дрижа*н*е (Мак., 181); Павелъ пойманы*и* ѡ*д* старосты поганского еслибы хотѣлъ маючи ласк*ꙋ* з^s^ собою, и старост*ꙋ* бы, и м*ꙋ*ры розкидалъ, б*ꙋ*д*ꙋ*чи Д͠ха параклита наполнены*и* (Там жа, 234).

**Паракони** *прым. Тое, што і* пароконный. Затымъ патронъ акъторовъ, поступуючы в дальшые термины правъные ... жаловалъ ... о томъ, ижъ тые вышъ менованые объжалованые светокрадцы жыдзи ... прыехавшы з саньми паракони до местечка Мусникъ ... в корчме станули (АВК, XXIX, 81, 1680).

**Параконный** *гл.* пароконный

**Парализжъ** *наз. Параліч.* видели его жидове, иже слепе ѡсвѣчал троудоватые ѡчищал, парализжом забитые оуздоровлѧл (Пак. Хр., 31); пан кгзовскиѕ старыѕ в лютым парализжем рушоныѕ а и҃ (8) марца ѵмарлъ (Еѵл., 33); замкнены сут ѵста его, и ѵпалъ ѡт парализжѵ, ани моглъ далей слова промовит (Кн. Мак., 59); Гсдь ... слѣпымъ взрокъ давалъ, парализжомъ заражоных оуздоровлѧлъ (Мак., 45—46); былъ трѵдоватыѕ и парализжомъ заражоныѕ (Зб. 259, 127б); панъ Ясинскій з божого презренья парализжомъ заражоный зосталъ (АВК, XXVIII, 350, 1653); Ежелибы по зарѵчинахъ, млднецъ, или невѣста , през хоробѵ, ѡсобливе парализжъ, проказѵ, оспѵ ... значнѵю на тѣлѣ ѡтримали ѡтмѣнѵ ... могѵтъ не дотриматисѧ зарѵчины (Зб. вып., 78б). *Параўн.* параличъ.

**Паралипоменонъ** *наз. Грэчаская назва дзвюх кніг Старога Запавету.* По сих сут двое книги Паралипомѣнонѕ зовемые греческим ꙗзыкомъ. Иже по рускии выкладаютсѧ Ветхого закону краткии Лѣтописецъ (Скар. ПЦ, 2б); о Кирю такъ ѵ Паралипоменоне тако пишеть (Будны, 56б). *Параўн.* паралипоменъ.

**Паралипоменъ** *наз. Тое, што і* паралипоменонъ. чти книги Паралипомена (Скар. КБ, 3б); пишеть о томъ во третих книгах црствъ цареи израилевыхъ. и во вторыхъ книгахъ паралипомена (Скар. ПС, 2); Прето теж и в паралипомене инакшеѕ имена стоꙗт (Бельск., 164б—165).

**Паралитикъ** *гл.* паралитыкъ

**Паралитыковъ** *прым. ад* паралитыкъ. natychmest korola zabiła nemoc paralitykowa (Бых., 569); pryiechał korol ... z lachow nemocon welmi, nemocoiu paralitykowoiu (Там жа).

**Паралитыкъ, паралитикъ** *наз. Паралітык.* розмышлꙗне в неделю ѡсмнадцатѵю по светках ѡ паралитыкѵ (Зб. 255, 107б); паралитикѵ хс҃ повѣтромъ рѵшономѵ на ложкѵ лежачомѵ длꙗ вѣри тыхъ што его несли рекъ ѵфаѕ сынѵ ѡтпѵщаютсѧ грехи твое (Зб. 259, 380).

**Параличъ** *наз. Тое, што і* парализжъ. епископъ Пинскій и Туровскій, хворобою тяжкою параличомъ отъ пана Бога навѣжоный естъ (АЗР, IV, 512, 1632).

**Парамантъ** *наз. Чатырохвугольная хуста з выявай крыжа і другіх знакаў пакут Хрыста, якую насілі манахі на грудзях і плячах.* с которого то вꙗзенꙗ не могѵчи ꙗ жаднымъ способомъ ... до розсѵдку их дх҃овного повабити и привести ... з везенꙗ сам вчесне вышедши наго, толко каптур и парамант длꙗ знаку законного на лобѣ маючи вѕ болотѣ ввес поплюскавшисꙗ и костуром се-

бе бючи по ꙋлицахъ варшавскихъ бѣгалъ и волалъ великим голосом, бѣда проклꙗтым и невѣрнымъ (Дыяр., 161б).

**Параменты** *наз. Царкоўныя прылады, уборы, упрыгажэнні.* За позычене лихтаровъ сребреныхъ двохъ и образовъ трехъ и параментовъ въ старшаго братства дали панамарю осм. осмнадцать (ИЮМ, III, 90, 1685).

**Парамея** *гл.* парамия

**Параминъ** *наз. Адна з прыналежнасцей адзення епіскапа.* А у епископовъ тоежъ все, а ведьже надто ... параминъ, полица, омофоръ, митра (Гарм., 214).

**Парамионъ** *наз. Від зёлак.* не чинил никто семꙋ дѣлоу такова сложеніе ѡного тархонь золотникъ, парамион пол золотника коумсоу четверть золотника, стерти сие все и смесити в^s^ полꙋчетверти гривеночнои ѡлею ѡрехового. а мазати имъ оуды ѡныи (Арыст., 215).

**Парамия, парамея** *наз. Выбраныя месцы са Свяшчэннага Пісання, якія чытаюцца на богаслужэнні.* Пойдимъ до молитовъ ... тыежъ псальми, пѣния, антифоны, тропары, кондаки, ирмосы, стихеры, каноны, параміи... молитвы посвещенія Таинъ Хрыстовыхъ (Гарм., 214); Оурѧдъ четца, и пѣвца, есть читати ѱалтыръ, парамеи, наоучати вѣры оглашенныхъ и пѣти ѵмны всѧкіѧ (Зб. вып., 52б).

**Паранина** *гл.* паренина

**Параномосъ** *наз. Той, хто паступае нязгодна з законам, неадпаведна праву.* Беззаконникъ, злосникъ, нецнота, параномос, безправник. несправедливый (Бяр., 2).

**Параситъ** *наз. Паразіт; нахлебнік, дармаед.* Дрꙋгій Нерона вѣрꙋтнаго окрꙋтника велбилъ. Иншій Евдоѯію безбожнꙋю за добрꙋю славилъ и длѧ того болшъ з^s^ похлѣбства и длѧ бридкости ꙗк^s^ параситове безстꙋжіи (Паўуст., 2б). *Параўн.* пасоритъ.

**Паратися** *дзеясл. зв. Займацца, важдацца; забаўляцца.* которомꙋ в^s^ ꙋпоминкꙋ послал заꙗчи^s^ кожух, и кꙋделю з веретеном и с праслицею, ꙋказꙋючи его в^s^ ꙋтечце быт подобным заꙗцови а в мужствѣ невѣсте которо^s^ сѧ пражею а не во^s^ною призвоита [!] парат (Стрыйк., 609б); возный выправуючысе на жалобу зъ жоною своею черезъ умоцованого своего тымъ боронилъ и артыкулъ десятый роздѣлу чотырнадцатого подавалъ, ижъ дей малжонка того возного ни въ чомъ николи не есть подейзрѣна и жадное жалобы первей сего, абы се чарами парать мѣла, на нее ни отъ кого не машъ, а то дей дѣвка служебница ... на нее речи небывалые ведеть (АВК, XVIII, 305, 1630); дрꙋгіе теж

повѣдают же то длꙗ того чинишъ же се порꙋбъством параш ажебыс не здалъ ижъ сам блꙋдишъ (Зб. 107, 187). // *перан. Абцяжарваццa, турбаваццa.* тотъ первѣй маетъ почати моцно вѣрити Гсдꙋ, и самогѡ себе цѣлкомъ на приказан^sѧ егѡ ѡддати, и свѣтꙋ выказати слꙋжбꙋ згола жебы сѧ розꙋмъ его тыми речами што ѡчи видѧт^s не парал^s (Мак., 196). *Параўн.* парать.

**Парать** *дзеясл. Тое, што і* паратися. естлибы чого въ правѣ панства сего не доставало, теды до другихъ правъ зъ чужихъ земль выданыхъ утекати се маеть, а звлаща въ правѣ земскомъ о чарахъ достаточне не описуеть, бо тамъ не звиклъ [!] станъ шляхецкий парать, лечь межи людьми простыми звыкло то бывать (АВК, XVIII, 305, 1630).

**Парафея** *гл.* парафия

**Парафеялный** *прым. ад* парафия. длꙗ всихъ посполите в местехъ местечъкахъ нашихъ, на торгохъ и пры костелехъ, парафеꙗлныхъ ѡбъволывати, и копеи з листовъ нашихъ прибивати (Ст. 1588, 73).

**Парафеянинъ** *гл.* парафиянинъ

**Парафианинъ** *гл.* парафиянинъ

**Парафия, парафея, парахвыя** *наз. Парафія, прыход.* только самъ владыка, по всей парафіи своей ... попы уставляти ... и рядити ими маетъ вѣчными часы (АЗР, II, 135, 1522); абы есте вси[мъ], хто войну служити повиненъ, ознаймовал[и], въ торгохъ и при костелахъ у параѳеяхъ обволывати казали (КПД, 758, 1563); кождому священниковъ здѣшнихъ волно будетъ детей ... учити въ дому своимъ ку пожитку своему и потребе церкве Божой и парахвыеи своей (АСД, XI, 9, 1590); слоухаючіе в^s ихъ парафіахъ бꙋдꙋчие, были ли повінни вѣры ихъ наслѣдовати, и ꙗко за ихъ блꙋдливою наоукою ишли, чи были албо и боудꙋтъ на дни сꙋдномъ пред гм҃ъ бг҃омъ вымовлени (Апакр., 63б); Парафеѧ его была полместа, село былевичи, ходꙋтичи (Барк., 163); тая церковъ новозбудованая ... на пляцу мескомъ, въ парафии миколской (ИЮМ, VIII, 285, 1609); Іерей в чꙋжои параѳіи исповѣдати не может кающагосѧ (Навука, 82); то^s во своеи парафѣи мѣлъ пана ѡдного богатого (Пралог, 539); Который универсалъ ... по парафияхъ през енерала публикован (АВК, XXXIV, 211, 1661); ехалъ там и ст҃ы^s амброси^s ꙗко до своеи парафеи, и не дбаючи над женъские препыхы (Зб. 82, 237). *Параўн.* парохия.

**Парафиянинъ, парафеянинъ, парафианинъ, парафянинъ, парофианинъ, парофиянинъ** *наз. Парафіянін.* повинни они пара-

фяне до тое церкве ... въ потребахъ церковныхъ допомогати (АСД, I, 6, 1507); владыка тежъ Полоцкій маетъ къ тому часу съ своими парофіяны, которые-кольвекъ съ нимъ могуть быти, на зборъ до нихъ пріѣхати (АЗР, II, 376, 1541); владыка ... далъ ему листъ на другую церковь Воскресенья Христова у Берести, але дей ему парафеянове не допустили (АВК, VI, 85, 1589); Били намъ чоломъ ... парафіяне и дозорцы церквей (АЗР, IV, 38, 1591); просили помененые парафіяне церкви светого Миколы. абы съ того Омеляна Остапъковича, яко злочынцы, справедливость учынена была (ИЮМ, VIII, 264, 1600); клѧтвꙋ, таковꙋю розꙋмѣемъ, котораѧ бы з<sup>s</sup> слꙋшное причины была выданаѧ ѿ Епспа на его парафіѧніна (Навука, 113); парафіано*м* нш҃и*м* в црк҃ви нш҃о<sup>s</sup> епи*с*копско<sup>s</sup> собо*р*но<sup>s</sup> ст҃го николы позволили дати имѣти предѣлъ ст҃ыхъ бг҃олюбивы*х* мч҃нкъ кнꙗзе<sup>s</sup> Росси<sup>s</sup>ски*х* бориса и глѣба (Дыяр., 153б); Парафиꙗне Ст҃ого илариꙗ принесли до це*р*кви ꙋме*р*лого (Пралог, 533); Одъ п. парофианъ Миколскихъ купили цеглы тысячей в҃і и семъсотъ (ИЮМ, I, 64, 1679); повинности кождого Іереѧ суть тыи: ... абы доносилъ Епспꙋ ѡ грѣхахъ парафіанъ своихъ (Зб. вып., 57—57б).

**Парахвыя** *гл.* парафия

**Паргаменъ** *гл.* паркгаминъ

**Паргаминовый** *гл.* паркгаминовый

**Паргаминъ** *гл.* паркгаминъ

**Пардва** *наз. Белая курапатка.* Кречет: Птахъ, которы*м* пардвы оубиваютъ, и иное птаство, подобе*н* соколꙋ (Бяр., 68).

**Пардусъ** *наз. Барс, леапард, пантэра.* привели емоу г҃ тисѧчь лвовь ловны*х* поровы*х* и к҃ тисѧчь пардꙋсовъ. и тисѧчꙋ тисѧчь зброи целое (Алекс. XV, 2); Поидижъ ѿ Ливана невесто моѧ, поиди ѿ Ливана, поиди будеш<sup>s</sup> корунована. з высокости Амана, и ѿ верху Санира и Гермона, ѿ жилища львовъ и ѿ горъ пардусов<sup>s</sup> (Скар. ПП, 6б). *Параўн.* пардъ.

**Пардъ** *наз. Тое, што і* пардусъ. Забѣгали и*м*ъ лвове, па*р*дове, не*д*веди, ѡднорожцы, зꙋбреве и смокове, котори*х* моцно забивали (Алекс., 27б); Леѡпард<sup>s</sup>: Звѣ*р* з<sup>s</sup> Пардꙋ и лва оурожо*н* (Бяр., 292).

**Паренина, паранина** *наз. Узаранае, але незасеянае поле, папар.* што Заранко сими часы бꙋдеть поль поѡралъ на паренину. то бы таки неха<sup>s</sup> сеꙗлъ (КСД, 727, 1511); я ... теперечи паренинꙋ хотелъ есми орати (КВЗС, 20, 1537); десятый позовъ о пооранье кгвалтовне поля Целейского на паренину и о посеенье жыта кгвалтовне на полю Целейскомъ (АВК, XXXVI, 7, 1582);

виделъ есми у колько сохъ оручи ролью на паренину (АВК, XVIII, 99, 1592); Вшакъ же въ паранине нихто ни накого городить не повиненъ (АСД, I, 192, 1594); третее поле, названое Дубровка, паренина въ року теперешнемъ (АВК, XIV, 495, 1594); повинни ... службы служитъ ... на паренину орать чотыри дни (Там жа, 538, 1595); коли ездили панове на морги пашъные Луполовъские для огъляданя, якъ веле пашъныхъ и пустыхъ и паренины, стратили на харъчъ (ИЮМ, I, 111, 1680).

**Паренинный** *прым. ад* паренина. першое поле, што подъ житомъ одъ Малевское границы, того поля должина стѣною отъ паренинного поля ново переорано до границы корощинское шнуровъ сорокъ пять (АВК, VI, 181, 1599).

**Парентационный** *прым. Пасмяротны.* панъ Костя, слуга его милости пана Константина Шуйского ... листъ его королевское милости — универсалъ на розные акты, то есть: коронацыйный, сеймиковый, парентационный найяснейшихъ антецессоровъ ... ку актикованью — до книгъ ... подалъ (АВК, IV, 157, 1675).

**Паренчъ** *гл.* поренчъ

**Паренье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* парити I. другій котелъ и вушатокъ для паренья хмѣлю на медъ (АВК, XIV, 356, 1590); другій котелъ для паренья хмѣлю у вушатокъ (Там жа, 362).

**Парепа** *наз. Кабыла, кляча.* парепу подъ нимъ пострѣлено и забито (АСД, I, 251, 1616).

**Паржъ** *наз. Прадстаўнік старажытнага блізкаўсходняга народа.* того рокꙋ деѡклитиѧн персы и паржы через маѯимиѧна геркꙋлиѧ звоевал (Бельск., 255б).

**Паригаменъ** *гл.* паркгаминъ

**Парижский, париский** *прым. Парыжскі.* алъхаире есть болше нижь вавилоніа а творитсе болше ниже сем мѣстъ парижьских (Валх., 59); котораѧ з грецким веліким жалованіимъ и з францкою радостію ... до мѣста париского пренесена (Там жа, 76).

**Паристый** *прым.* **1.** *Які складае з кім-, чым-н. пару; парны.* Купили два нашийники юхтовыхъ отъ Ярмолы рымаря для коней паристых ратушныхъ (ИЮМ, IV, 194, 1686).

**2.** *Які прызначаны для запрагання ў пару коней.* Колясъ паристыхъ, кола окованые, штукъ чотыри (ИЮМ, V, 145, 168).

**Парити I** *дзеясл. Парыць, апрацоўваць парай, варам.* броварне начинье ... третій котелъ, што хмѣль паратъ на медъ (АВК, XIV, 358, 1590).

**Парити II** *дзеясл. Лятаць, лунаць, рухацца ў паветры.* лютыи посолъ есть смерть ... боитсѧ заповеди бж҃иѧ и творит волю

его и парить как птица летаеть по въздоухом. такъ ѡна по людем (Чэцця, 276б). // *перан. Вельмі хутка бегчы, ляцець.* Текꙋ: Бѣжꙋ, Бѣгꙋ, парꙋ (Бяр., 170).

**Парити III** *дзеясл. // перан. Біць, паражаць, знішчаць; абстрэльваць.* козаки видꙗчи што сꙗ дѣет, што прꙋжше[s] тꙋрком зашедши з стрелбою, такъ ихъ барзо парили, же ихъ замешали (Хр. польск., 20б).

**Парка I** *наз. Футра, шкурка.* Гды панове розбирали соболи парки на подарунокъ до кроля, на той часъ седели у ѳедоровича дворника, одыскали ... меду гарцы шесть (ИЮМ, VIII, 143, 1691).

**Парка II** *наз. Парка, адна з трох рымскіх багінь лёсу.* Чи васъ Парки (еслисте оу Бга такими, Въ животъ и смрть можными з[s] силами своими). Образилъ чимъ; надъ мѣрꙋ питьꙗ и еден[s]ѧ Торовалъ онъ зо всѣхъ васъ дорогꙋ збавен[s]ѧ (Лям:, 5).

**Парканный** *прым. Тое, што і* паркановый. што ся дотычеть ... заставы и всякой роботы замковое и парканное, то я жъ верхуписаный ѳедко, маю ... имъ накладомъ безъ Маркова шкодного (РПП, 230—231, 1533).

**Паркановый, паркгановый, паркановый** *прым. ад* парканъ. не будуть они повинни большъ замку и паркану робити, также ихъ оправовати, и перекопу замкового и парканового копати (АЗР, III, 111,1561); чоботаръ ... мает быти ... сторожом у браме местской, то ест у бакшты паркановой (ИЮМ, XXX, 137, 1577); который дом ... тыломъ до стайни егожъ милости верьху менованого князя Соломерецкого ажъ до муру местъского паркганового лежачый (АВК, XX, 107, 1594). *Параўн.* парканный.

**Парканъ, паркганъ, порканъ** *наз. Паркан; у Сярэдневякоўі замкавая ці гарадская сцяна.* хто на тот час не можеть замуровати делници своѣ тот бы порканом порканил (СДГВ, 18, 1505); што се дотычеть службы земское, военное ... яко замку робити паркану и рову и мостовой роботы ... то я, ѳедоръ Калауръ, маю всѣ тые службы самъ своими людьми робити (РПП, 315, 1521); мыслил аданаи исказити мꙋрꙋ посполꙋ скажены (Зб. 262, 111); роботу замку тамошнего и паркану мѣстского повинни будуть оправовати (АЗР, III, 111, 1561); парканъ, который около мѣста Могилевского отъ нихъ ново есть забудованъ, никоторого опатренья на собѣ не маетъ (Там жа, 295, 1585); з великим пꙋдом до мѣста пѣхотꙋ з драбинками припꙋстил, которие барзо прꙋдко парканъ перешли и роскидали его (Хр. польск., 19); Уфала, сталая отъ посполыства, якимъ способомъ

парканъ коло мѣста будовати (АСД, I, 308, 1638); Забрало: Парканъ, обламокъ, стѣна (Бяр., 47); неприятел вяроломный ... през кгвалт усилство первей паркан, а потом тогож часу и замок Мстиславский добывшы ... розных людей ... мечом высек (АВК, XXXIV, 275, 1663); двора помененого вшелякихъ будынковъ зъ коминами муроваными, зъ печами ... сплендоромъ дворнымъ, съ паркономъ фундатусъ зруиноване (АВК, I, 361, 1697); ◊ Въ (у) паркане — *унутры агароджы, сцяны.* дали есмо ему ... другое мѣсце въ паркганѣ (РПП, 344, 1508); вызволяемъ всихъ мѣщанъ Дисеньскихъ ... въ парканѣ и за паркономъ (АЮЗР, I, 165, 1569); продалъ ... кгрунтъ мой земленый ... лежачій въ мѣстѣ Берестейскомъ, на улицѣ Великой Пѣсоцкой, у парканѣ (АВК, VI, 81, 1589); за прыступенем потужного войска московского ... далисе облеч в паркане (АВК, XXXIV, 157, 1660); маютъ они сами ... огородовъ, пляцовъ в месте Могилевскомъ, в паркане и за паркономъ, зо всими пожитками уживати (АВК, XXIV, 502, 1703); за паркономъ — *паза агароджай, парканам.* у поли за паркономъ міасо спалено (ИЮМ, XXXII, 137, 1578); князь Ярославовичъ ... продку его Григорію Соколу клинъ поля въ мѣстѣ Пиньскомъ за паркономъ лежачый далъ (АЗР, III, 310, 1586).

**Паркгаменный** *прым. Тое, што і* паркгаминовый. хотечи ... тот мой тестамент паперовы на паркгаменны лист описати поехалем сам до ви*л*ни (СДГВ, 66, 1619).

**Паркгаменовый** *гл.* паркгаминовый

**Паркгаменъ** *гл.* паркгаминъ

**Паркгаминовый, паргаминовый, паркгаменовый, перкгаменовый, поркгаминовый** *прым. ад* паркгаминъ. оказали листъ господаря короля его милости перкгаменовый съ привѣсистою печатью (АСД, I, 51, 1546); ѡ*т* листу па*р*кгаменового естли бы сторона потрэбовала с привесистыми печа*т*ми за пра*ц*у писа*р*у двана*д*цать гр̑ши (Ст. 1566, 43); у того листу паркгаминового печатей завесистыхъ шесть (АВК, XX, 29, 1576); у того листу перкгаменового подписъ рукъ польскимъ писмомъ тыми словы (АВК, VIII, 411, 1577); у той же церкви ... книги две старые поркгаминовые (СДГМ, 35, 1579); пото*м* показалъ прывиле[s] па*р*кгаминовы[s] корол*ѧ* его м*л*с*т*и жыкгимо*н*та (ККСС, 161, 1616); Головки показали листъ у права небожчыцы княгини Марьи Пиньское паркгаменовый подъ печатью ее завѣсистою (АЮЗР, II, 85, 1633); уважали листъ ... паргаминовый господина Никифора (АСД, II, 58, 1635). *Параўн.* паркгаменный, пархаменовый.

**Паркгаминъ, паргаменъ, паргаминъ, паригаменъ, паркгаменъ, пергаменъ, перкаменъ, перкгаминъ, пиркгаминъ, поркгаминъ** *наз. Пергамент, спецыяльна апрацаваная скура жывёлы, на якой пісалі.* Ганусу записано на паркгамене, какъ инымъ именье Чоруковъ (КЗ, 99, 1453); Панъ Война Матѳеевичъ оказалъ прывилья свои на имѣнье свое въ Любели кнегини Семеновой и кнегини Марьи на перкаменѣ писаное (РПП, 218, 1495); покладалъ и очевисто признал привилей его королевское милости Жикгимонта, за печатью маистатовою на паркгаминѣ писаный (АВК, II, 3, 1508); покладали передъ нами тры листы, на пергамене писаные (Арх. ЮЗР, V—1, 28, 1509); тотъ листъ короля его милости Туровичи передъ нами покладали на поръкгамине съ привѣсистою печатью (КСД, 469, 1517); били намъ чоломъ абыхмо тотъ листъ нашъ имъ отменили а на паригамене дати его казали (СДГВ, 69, 1540); у того привилею, на паргаминѣ писаного, печать великого князства Литовского (АВК, XIII, 33, 1568); подавши листъ свой продажный, вѣчистый, на перкгаминѣ писаный, ку записанью до книгъ врадовыхъ ... оповѣдалъ и созналъ (АВК, VIII, 405, 1577); од натираня чымсь тот паркгамин льснит и бляск значный на нем ест (АВК, XXXII, 12, 1596); таѧ ... принесла деве*т* кни*г* на па*р*кгамѣне писаны*х* (Бельск., 192); поклада*л* листъ ... продажный на пиркгамине писаный (ККСС, 52б, 1615); на па*р*гаменѣ до писанѕѧ справленомъ, што захочетъ написати и зновꙋ змазати можетѕ (Мак., 233); игуменъ Васьянъ ... положилъ потверженье короля его милости Жикгимонта на паркгаминѣ зъ печатью прибитою (АВК, III, 1, 1661).

**Паркгановый** *гл.* паркановый

**Паркганъ** *гл.* парканъ

**Парность** *наз. Гарачыня.* Такожъ и кузнець седѧи возлѣ наковални, и соглѣдаѧи дело железа. парность огнѧ палить тело его, и въ горѧчести огненеи воюеть (Скар. ІС, 62).

**Парный І** *прым. Душны, насычаны вільгаццю, парны.* в то*т* ча*с* горѧчо*ст* великаѧ была и зной па*р*ный (Алекс. 1697, 27б).

**Парный ІІ** *прым.* ◊ Парное поле *гл.* поле.

**Паробакъ** *гл.* паробокъ

**Паробацкий** *гл.* паробоцкий

**Паробокъ, парабокъ, паробакъ, поробокъ** *наз. Дваровы слуга, парабак; наймiт.* о паробцо*х* а любо о жонъка*х* нево*л*ныхъ (Вісл., 9б); з Высокого двора паробокъ а жонъка (КЗ, 317, 1488); втекъ ми паробокъ ... многии ми шкоды подѣлавши; и

ꙗ того паробка нашолъ въ того тивꙋна (КСД, 184, 1514); естли бы паробокъ бы*л* во враде в тиву*н*стве або в приста*в*ницъстве голо*в*щина ему десѧть ко*п* (Ст. 1529—Ф, 140); кгды-кольвекъ который чоловѣк вашъ непохожый, або поробокъ невольный, або роба утечеть до мѣста Виленьского; тогды они таковыхъ не выдають (АЗР, III, 10, 1547); Апостол[s] теже паробко*м* тако пишеть, абы своим[s] господаром[s] не такъ служили ꙗко человѣко*м* але ꙗко самому Хрісту (Будны, 74б); бы*л* пере*д* ты*м* ꙋ великого кнꙗзꙗ Ѡ*л*кги*р*да пароба*к* нево*л*ны*и* холопъ (Патр. К, 44); паробокъ маетъ на роботу ити на-полы господину владыцѣ и священникомъ (АЗР, V, 14, 1633); приказалъ воозъ парабкомъ своимъ мовечи (Хран., 194б); за працу паробкомъ, которые сено на верхъ зложили, дали горелки гарнецъ (ИЮМ, III, 101, 1685).

**Паробоцкий, паробацкий, паробоцский** *прым. ад* паробокъ. ѡ головщины люде[s] путны*х* и мужицкие и паробацкие (Ст. 1529—Ф, 139); пꙋстовщинъ мужицъкихъ и тежъ паробоцъскихъ погное*в* земль (КВС, 591, 1552); Челедь тежъ дворную, Дороша и жону его Катерину по животе моемъ выпускаю з роботы ихъ паробоцкое и вольными чиню (АВК, XXII, 248, 1565); пачосъ дано три вѣсы прасть до жонъ паробоцкихъ (АСД, III, 239, 1571).

**Паробчый** *прым. Які апрацоўваецца.* Я Станиславъ Яновичъ возны повету Вилкомирского ... увезаломъ ... пна Яна Андреевича Товткгина ... в ыншые земли пустовщызные и в земли паробъчые, до того именича Кгрежанъского з давъных часов належачые (АВК, XXXII, 437, 1596).

**Пароженье** *гл.* пороженье

**Парожность** *гл.* порожность

**Парокграфъ** *гл.* паракграфъ

**Пароконный, параконный, паруконный** *прым. Параконны, прызначаны да пары коней.* до другое колясы также пароконное, бляхъ четыре (ИЮМ, III, 85, 1685); Сани купили старые на подкладоване возка паруконнаго (ИЮМ, IV, 78, 1686); продали колясу пароконную глабчатую (ИЮМ, VI, 7, 1689); У Грышка Марковича возокъ пароконный (Там жа, 131); дышелъ до санокъ параконнихъ (ИЮМ, XVII, 60, 1710); за работу колясы параконной, до порахунку дали 6 зол. (ИЮМ, XXII, 2, 1711). *Параўн.* паракони.

**Паромъ, поромъ** *наз. Паром.* къ прiѣханью нашому посполу съ ними мають поромы справовати и мосты мостити (АЗР, II, 94, 1511); Иванъ ... у порома замъкового тые волы в нихъ

отнялъ (АВК, XXI, 245, 1556); князъ бискупъ, умысльне загорожаючи ему дорогу до справедливости, паромы его на перевозѣ порубати, а свои поховати, казалъ (АВК, II, 217, 1580); вскочивши въ и*е*р*д*ань пере*д* царе*м*, переправили поро*м* абы перевезли до*м* ца*р*ски[s] (Біблія, 391); тые люди, которые потонули, не на порому, але по своей доброй хути въ чолъну ехали (ИЮМ, IX, 233, 1636), вскочивши в[s] Іерданъ предъ ц҃ремъ, переправили поромъ абы перевезли домъ царскій (Хран., 272б); староста ... коли в поро*м* вселъ з ко*н*ми, два с҃а конѣ на него кинули (Зб. 82, 379); перевезли коней чотырохъ на пароме (ИЮМ, X, 80, 1695). *Параўн.* промъ.

**Паросникъ** *наз. Пералесак, рэдкі ці малады лес паміж лясными масівамі.* тотъ дворецъ наш ... з огороды овощовыми, землями погнойными, с полями оремыми и неоремыми, гаи, дубровами, паросниками, кустовъемъ и зарослями ... продали есьмо (АВК, XXXVI, 49, 1582); тою дорогою восмый копецъ, который подле дороги тое, на полю подданого моего Гырлы, у пароснику березовомъ усыпанъ коло березки (ИЮМ, XXII, 454, 1627); граница идетъ ... зъ ели на край пароснику, у сосну, зъ сосны до мху великого Лонского (Там жа, 473, 1642).

**Паростка** *наз. Парастак.* Прирасль: Паростка (Бяр., 127).

**Парофианинъ** *гл.* парафиянинъ

**Парофиянинъ** *гл.* парафиянинъ

**Парохиалный** *прым. ад* парохия. Иноци мающіи Ц҃ркви парохіалныи повинны бывати на Соборахъ Діецезалныхъ (Зб. вып., 71б); Той привилей маютъ вси Ц҃рквы ... стопни до Ц҃ркви, на четыридесѧтъ кроковъ, ежели естъ Ц҃рковъ Катедралнаѧ, а на тридесѧтъ, ежели естъ Ц҃рковъ Парохиалнаѧ или Иноческаѧ (Там жа, 106).

**Парохия** *наз. Тое, што і* парафия. Пріѣхавши я ... въ обитель священника ... ку поданью, то есть, интродукціи всей парохіи церкви Опольской (АВК, III, 8, 1521); Іерей повинен[s] оупоминати въ своей Парохіи, абы кождыи хорый старалсѧ ... причаститисѧ (Зб. вып., 26б); Іерей повѣненъ принамнѣй разъ в[s] рокъ мѣти Слѹжбѹ Б҃жѹю, той который не маетъ Парохіи (Там жа, 29).

**Парохъ** *наз. Прыхадскі ксёндз.* Иванъ Сопоцько, протопопа Володавскій и Берестейскій, парохъ Руденскій, Воинскій, Предмейскій (АВК, III, 8, 1521); Не можетъ жаденъ себѣ обрати Сповѣдника, але оу своего Пароха повѣненъ сповѣдатисѧ (Зб. вып., 40); За цалый Рокъ, по с҃мрти Пароха, повиненъ Епспа

загодѣти той Парохъ, который настѹпѹетъ на Парохію вакѹючѹю (Там жа, 58).

**Парпиянский** *гл.* пурпурыянский

**Парпиянъ** *гл.* пурпуриянъ

**Парплица** *гл.* паприца

**Парпура** *гл.* пурпура

**Парпъянъ** *гл.* пурпуриянъ

**Парпьянский** *гл.* пурпурыянский

**Парпьянъ** *гл.* пурпуриянъ

**Парпянский** *гл.* пурпурыянский

**Парсиянинъ, парсианинъ** *наз. Тое, што і* персъ. бо*г* грецкоую зм̃лю и арменскоую выда*л* в роуце сарацено*м* и парсіано*м* (Валх., 76б); Несторины парсиѧно*м* соуседы (Там жа, 88б).

**Парскъ** *наз. Брыдота, паскудства.* всходитъ сл̃нце а ѡбачаетъ дш̃а свою згѹбѹ, и починаетъ ѡ*д*волывати з͛ гноемъ и парскомъ помѣшаныи мысли свои (Мак., 93).

**Парсона** *гл.* персона

**Парсуна** *гл.* персона

**Парсунный, порсунный** *прым. Асабісты, персанальны.* ѡ пре*мд*рости парсѹнной, і како по*до*баеть водити животъ, дабы захованъ въ з*д*равьи (Арыст., 140); ѡ прем̃дрости прироженои, исполненіе прем̃дрости порсѹннои подлоу*г* силы нш̃еѧ любви ра*ди* твоеѧ (Там жа, 179).

**Парсъ I** *наз. Павага.* въ томъ ведля права посполитого актбреа парсъ не заховала, але черезъ пленипотента своего за позовъ поводовой сторонѣ по принципаловъ своихъ вынесеный непорадный продуковали (АВК, IX, 43, 1671).

**Парсъ II** *наз. Тое, што і* персъ. тыи пррочства и кн̃ги чере*с* законне докторы и писменники и мистры и то*л*ки ха*л*деи и парсы собе выкладати и то*л*ковати велѣли (Валх., 41б); парсы хотѧ соу*т* без какое веры албо законоу а вежды с хрестіѧны оу цр̃ковах молѧтсе подлоу*г* законоу того как ѡдъ ѡ*т*цевъ свои*х* и ѡт ыны*х* соуть наѹчены (Там жа, 88б).

**Партенский** *прым. Які адносіцца да народнасці, што пражывала ў Старажытнай Грэцыі.* пѧту заправдѹ шпицю ве*л* менелѧоушь з людо*м* паръте*н*скимъ (Троя, 38).

**Партесъ** *наз. Падтрымка.* панъ Цитринскій у княжати его милости партесъ маетъ (АВК, XV, 516, 1686).

**Партикулярный, партыкулярный** *прым. Прыватны, неафіцыйны.* мовити зачинаю противко пунктомъ его партыкулярнымъ (АСД, IX, 118, 1627); занехавъши па*р*тикѹлѧ*р*ного на тотъ ча*с* сѹдѹ, мовъмо ѡ ѹниве*р*са*л*номъ (Зб. 259, 355б).

**Партися** *дзеясл. зв. Тое, што і* пертися. сторона отпоръная згола парласе того (АВК, XXXIX, 107, 1578).

**Партицыповати** *дзеясл. Удзельнічаць, мець сваю долю.* грошей готовыхъ отъ тыхъ жидовъ ... не бралъ, не партицыповалъ, не корысталъ (АВК, XXIX, 96, 1680).

**Партужъ** *наз. Назва міфічнай драпежнай жывёлы.* звѣри партꙋжи крилатыи ногти в$^{s}$ них ꙗкъ серпы ѡстріе велми, ижъ в$^{s}$ камен влѣпаютъ, тогды тыи партꙋжи многое множество тых людей поимали (Алекс. 1697, 77б—78).

**Партъ** *наз. Парфянін (прадстаўнік старажытнай народнасці, якая пражывала на поўдзень ад Каспійскага мора).* Макгокгъ ѡт которог идꙋт татарове, тꙋрцы, парты и их жоны (Бельск., 11); темерлꙗн ... царство ꙋмираючи двома сыном зоставил, з которых незгоды панства, кролевства през ѡтца набытые роспорошилосѧ и панство партов загасло (Там жа, 406б); мало перед тым партове воиско римское велми были побили (Зб. 81, 47б). *Параўн.* парфъ, парфянинъ.

**Партыка** *наз. Акраец, луста, скіба.* в$^{s}$ обтѧженью ѡт нихъ и троудностѧх фолкгꙋ мѣти могли, або партыки ꙗкой хлѣба ихъ оучасниками быти могли (Апакр., 196).

**Партыкулярный** *гл.* партикулярный

**Парубокъ** *наз. Дзяцюк, хлопец.* Юноша: Млоденецъ, молодец, парꙋбокъ к҃ лѣтъ, или по нѣкіихъ л҃і лѣтъ (Бяр., 207); парубъку ратушному якъ ходилъ до церкви, готуючыся до споведи дали (ИЮМ, VI, 51, 1689).

**Парука** *гл.* порука

**Паруконный** *гл.* пароконный

**Парусъ** *наз. Парус.* соут соуд велікій корабль вси пароусы албо жакгле ростѧгноувши и поднѧвши (Валх., 75б); оуставили сто кораблев поити по морю поднешши парꙋсы (Троя, 18); велѣ их с кораблев ѡных з веꙗнꙗ ветра а с поднесенꙗ парусов на землю приплынули (Там жа, 19); напѧли парусы, и былъ имъ вѣтр вправныи а шли боръздо (Трыст., 23); поднѧли парус и пошли по другому мору (Бава, 135); коли бачил иж было водою трꙋдно до мѣста казал зараз колеса робит во$^{s}$ску а корабли на них ставит и поднꙗвши в кораблꙗх парꙋсы (Стрыйк., 439б); Вѣтрило: Жагель, парꙋсъ, полотно кораблю длѧ вѣтрꙋ (Бяр., 26); теды былъ вѣтръ погодны$^{s}$, ѡдно нашъ корабль зосталъ на ѡдномъ мѣстцꙋ, котори$^{s}$ през цалую дне$^{s}$ л҃і не поступꙋючи нимало, которому вѣтрꙋ парꙋсы не помагали ничого (Пралог, 541б); повстала бурꙗ вѣтры и навалност

великаꙗ з велми страшными тꙋчами ажъ сѧ и парꙋсы поꙋрывали (Зб. 81, 188); ѡгонь ꙋчынил собѣ ꙗко склепъ зо всѣхъ сторон ѡколо тѣла выдꙋтыѕ ꙗко парус ѡт вѣтрꙋ сталъ (Зб. 82, 412).

**Паручникъ** *гл.* поручникъ

**Паручный** *гл.* поручный

**Парушоный** *гл.* порушоный

**Парфума** *гл.* перфума

**Парфъ** *наз. Тое, што і* партъ. межы парфы мѣдꙗны персꙗны врахманы ирканы и въвикторы розсѣвал вѣрꙋ стую (Зб. 752, 428).

**Парфянинъ** *наз. Тое, што і* партъ. стый Апстлъ матѳей проповѣда Еvгліе юдеемъ, парѳѧномъ, и мидѧномъ, въ Іераполи сvрстей ѡгнемъ сожжесѧ (Зб. вып., 89).

**Пархаменовый** *прым. Тое, што і* паркгаминовый. корали на шыи носячые пархаменовые, межы которыми лелейки золотые зъ шмальцомъ (АВК, XXVIII, 57, 1605).

**Пархуватый** *прым. Тое, што і* паршивый *у* 1 *знач.* Прокаженъ: Трꙋдоватѕ, стрꙋпливъ, свербистъ, паршивѕ, пархуватъ (Бяр., 130).

**Парцовский** *прым. Які мае адносіны да горада Парцова.* въ другой дей коморе жита лаштовъ два, корцый двадцать шесть, меры парцовъское (АВК, XVIII, 44, 1582).

**Парша** *наз. Струпы, высыпка на целе.* если буде слѣпо, если ꙋломно, если близну маючое, если бородавки або свербъ або парши и жадного звѣрꙗти ... не ѡферꙋйте гсдꙋ (Біблія, 171).

**Паршивый** *прым.* **1.** *Хворы на паршу; шалудзівы.* Прокаженъ: Трꙋдоватѕ, стрꙋпливъ, свербистъ, паршивѕ, пархуватъ (Бяр., 130). *Параўн.* пархуватый.

**2.** *Вельмі дрэнны; нікчэмны.* Пастырь прето добрый паршивꙋю ѡвцꙋ лѣчит, а овца ѡвци злѣчити не можетъ (Мак., 346); противъко пастырови паршивыи ѡвечки повстали (Зб. 259, 582).

**Парыстый** *прым. ад* пара II *у* 1 *знач.* за окованє колясы парыстое железомъ мескимъ заплатили Миките ковалю золот. четыры (ИЮМ, VII, 90, 1690).

**Парячий** *дзеепрым. ад* парити I. Мойсей стꙗгнꙋлъ посохъ на землю египетскую, а гсдь привелъ вѣтръ парꙗчиѕ през ѡныѕ цалыѕ день и ночъ (Біблія, 118).

**Пасажати** *гл.* посажати

**Пасаманъ, посаманъ** *наз. Пазумент, аблямоўка.* ему згинулъ ермякъ сукна чырвоного люньского с пасаманомъ (АВК, XXXI, 147, 1593); съ пасаманы чотырнадцать ризъ, шацуетъ за сто копъ грошей Литовскихъ (АЮЗР, I, 264, 1596); летникъ ки-

тайки жолтокгоронцей, кшталтъ с пасаманы золотыми (АВК, XXVIII, 63, 1605); плащик аксамитный взористый, съ пасаманами серебреными (АСД, III, 82, 1617); у краме моей ... посамановъ чорныхъ, узорочныхъ, окъсамитъныхъ локтей деветнадцать (ИЮМ, XXI, 423, 1625); пасамановъ пстрыхъ полъедвабныхъ до катанки локтей тридцать (ИЮМ, X, 57, 1695); пасаманъ пстрыхъ локтей трыдцать (ИЮМ, XIII, 56, 1699).

**Пасаный** *дзеепрым. ад* пасати I. со всех людей выбрали ѡдного мѹжа пасанего шлѧхтица и выборного который бы оусимъ земл҃ѧмъ и королевствамъ ихъ оу свецкихъ речах вечне мѣлъ пановати (Валх., 66б); нихто не смѣлъ его дождати, бо збилъ былъ пѧтнадцат витезеи пасаных и ѡсмнадцат бановъ (Трыст., 127).

**Пасати I** *дзеясл. Пасвячаць у рыцары.* Трыщан былъ у цэркви, а на завтреи его король пасал (Трыст., 18); хочу коли будеш рыцэром, абыс мѧ пасалъ (Там жа).

**Пасати II** *дзеясл. Тое, што і* пасти II *у* 1 *знач.* реклъ дѣдъ до саѹла: пасалъ есмъ слуга твой чередѹ ѡтца своего (Біблія, 329).

**Пасатися** *дзеясл., зв. ад* пасати I. коле ти сѧ будет час пасати на рыцэрство, а коли усхочешъ пасати сѧ , король тѧ своею рукою пашеть (Трыст., 18).

**Пасвеный** *дзеепрым. ад* пасти II *у* 1 *знач.* знову дей побегъ следъ у лесъ, где телята пасвено (АВК, XVIII, 353, 1647).

**Пасека** *наз.* **1.** *Высечаная, выкарчаваная дзялянка лесу.* будучи въ насъ при пане Остаѳеи, упросилъ себе входы ихъ звечистыи на Тесмени трыдцать пасекъ (Арх. ЮЗР, VIII—5, 11, 1536); вели ... дубровою до врочишча Михновы пасѣки, а отъ Михновы пасѣки дубровою до врочища Голого Каменя (АСД, I, 118, 1546); на пасеце прозываемой Крачовской, неподалеку оселицы моее, з череды быдла моего кгвалтовне пограбилъ и взялъ две коровы (АВК, XXXVI, 357, 1582); оттуль у березы, конецъ пасеки, рубежи выпсовали и высекли (АВК, XVIII, 99, 1592); на семомъ мѣстцу пасѣки и лѣсу урочищомъ Ондрушишки моркговъ три (АВК, VIII, 415, 1586); я тую маетность, местечко зъ селомъ и зъ фольварками самъ державъ и уживалъ ... зъ садами, пасеками, борами (Арх. ЮЗР, V—1, 101, 1602); тымъ листомъ моимъ позволяю фундовати монастырь за Лубнями ... гдѣ передъ тымъ бывала пасѣка (АЮЗР, I, 71, 1619); подлѣ пасѣки его милости дворное копа вже четвертая ... зобрана была (АВК, XVIII, 307, 1630).

**2.** *Поле на месцы выкарчаванага лесу.* в дѣржанье вечыстое подалъ ей ... одно поле посадное, на другомъ местцу часть по-

ля пасеки на новине (АВК, XXXVI, 160, 1582); тот лес его лешнегъ моцно кгвалтомъ высек на пасеку земянин (АВК, XXXI, 193, 1594); наехавшы ... на ниву пасеку свежу розробленую при жите ... тот кгрунт отнявшы до именича своего ... привернули (АВК, XXX, 288, 1604). *Параўн.* пасечищо.

**3.** *Месца, дзе размешчаны вуллі з пчоламі.* тое есмо дали ему ... съ бортнымти землями и съ пасѣками (АЗР, I, 68, 1450); въ томъ же селе пасека, а въ тойже пасеце бчолы сто и шестери (КЗ, 161, 1490); воеводы Кіевскіе нынѣшніе и потомъ будучіе не маютъ въ имѣнья ихъ всылати, по пасѣкамъ и по землямъ бортнымъ медовъ на себе брати (АЗР, II, 210, 1529); хто бы кому в дому альбо в пасеце албо в лесе на дереве з ȣльѧ або с кореника поставеного пчолы выдрал (Ст. 1588, 389); оттоль въ пасекахъ у дереве бортномъ сосновомъ рубежи выпалены (АВК, XVIII, 99, 1592).

**Пасекъ** *наз.* **1.** *Памянш. ад* пасъ *у* 1 *знач.* пасекъ едвабный коштовалъ золотыхъ два (АВК, XXXVI, 152, 1582).

**2.** *Тое, што і* пасокъ *у* 2 *знач.* Рымару за ренкгортъ и за лейцы двое и пасекъ и за направу шлей старыхъ золот. пять (ИЮМ, V, 14, 1688).

**Пасение** *гл.* пасенье

**Пасеный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* пасти II *у* 1 *знач.* Волы теже и овце да не будуть пасены близу горы (Скар. КВ, 64); волы коръмные королевой ее милости и кони пана моего были пасены (АВК, XXI, 54, 1555); з па*н*нами играла на берегу, где пасено бы*д*ло (Бельск., 70б); та*м* много бы*д*ла пасено (Алекс., 7б); было недалеко ѡ*т* нихъ стадо свиней великое пасено (Каліст, II, 24б).

**2.** *Ад* пасти II *у* 2 *знач.* были и иншіе ѡвцы котѡрые с пога*н* приведены през апсловъ сполне ... такъже и през иншіе старшіе цр҇ковные мѣли быти пасены (Апакр., 101—101б); Хс҃ овцами звати сѧ можемо, и нимъ самы*м* пасены быти (Каліст, II, 239б).

**Пасенье, пасение** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* пасти II *у* 1 *знач.* Вызволенье подданыхъ Берестейскихъ отъ пасенья быдла во дворцы Кіевъцы (КЗ, 583, 1495); предал$^{s}$ е*ст* гсдь сыном$^{s}$ ізраилевым$^{s}$ суть вел$^{s}$ми добры къ пасенью скоту (Скар. ЛК, 66—66б); дозволяемы тымъ жидомъ волность выпущанья и пасенья быдла и тежъ добытковъ своих на оныхъ сеножатяхъ и поляхъ (СДГВ, 174, 1579); чого жъ иншого они болше в пасенью овечѡкъ шȣкаютъ на*д* пожи*т*ки свои (Апакр., 202); пастȣхъ и молодо*м* вѣце не давшы и*н*шого цвиче*н*ꙗ прыставлꙗе*т* до пасе*н*ꙗ быдъла (Зб. 259, 184).

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* пасти II *у* 2 *знач.* преложенство ѡ пасенью ѡвецъ петрови давано абы на немъ ꙗко на кгрꙋнъте фꙋнъдованꙗѧ была церъковъ (Бер. саб., 28); што розꙋмѣетъ о оныхъ ефескихъ дх҃ѡвныхъ преложѡныхъ, кꙋ пасенью албо справованью цр҃кве бж҃ей постанов*л*ены*х* (Апакр., 63б); мо*ц* и*м* е*ст* дана ... пасениꙗ ѡвец и раженꙗ це*р*кви (Зб. 255, 214б).

**3.** *Спасванне.* я николи з тыми одверными у право передъ паномъ Лвомь около пасенья збожья, яко они на мене жалують, не стоялъ (АВК, XXI, 33, 1555).

**Пасербина** *наз. Тое, што і* пасербица. Мицъ Петровичъ из жоною и с пасынками двема Павлюкомъ а Якубомъ Мартиновичи и с пасербинами Милою и Занею Мартиновнами ... з дому своего прочъ зышолъ (АВК, XXVI, 482, 1586).

**Пасербица, посербица** *наз. Падчарыца.* мате*s* ... девку зоѳию тивуна кнежого петюлевꙋ пасеръбицу почалъ кгвальтовати (КВС, 499, 1552); жаловалъ на врадѣ въ замку Берестейскомъ Кгригорій Кграбовскій возный именемъ посербицы своее мѣщанки Берестейское Ганны Овхимовое ... на жидовку (АВК, V, 7, 1577); панну Ганну, пасербицу того Станислава Лозницкого (АВК, VIII, 412, 1586); Андрей Печулайтисъ, боярынъ прихожій, зъ жоною, пасынокъ его Миколай отчичъ а пасербица Катерина и Марина (АВК, XIV, 534, 1595); максимиꙗ*н* ге*р*кꙋли*s* да*л* емꙋ за ма*л*жон*к*ꙋ ѳеѡдорꙋ пасе*р*бицꙋ свою (Бельск., 258); за кгвальты, шкоды и бои поступилъ возному и жоне его и пасербицам его сто двадцат коп грошей литовских (АВК, XXX, 207, 1602); цоръка тежъ небощыковъская а пасербица ее, панна Катарена тыежъ слова, черезъ пани Карловичовую вымовъленые, зъгодне поведила (АВК, XVIII, 205, 1607); маетъ она тое помѣстье держати на поживенье собѣ и дѣтемъ, покуль дѣти дорастуть и посербицу свою Василису замужъ выдасть (АЗР, IV, 390, 1610); Сацъ не маючи жадное кривды, окрадши свою жону шлюбную Марту Сидоровну и двѣ пасербицы — Татьяну и Оксимку Грицовны ... утекъ прочъ до села Бобля (АВК, VI, 95, 1612). *Параўн.* пасербина.

**Пасербовичъ** *наз. Сын пасынка.* онымъ, яко пасербовичамъ и пасербицы своей въ томъ, абы се тому мужобойцу отца своего пытали, воли не дала (АВК, XVIII, 203, 1606).

**Пасербокъ** *наз. Тое, што і* пасербъ. всихъ дей детей и пасербковъ ее пани Карловичовое (АВК, XVIII, 214, 1607).

**Пасербъ, посербъ** *наз. Пасынак.* Адамъ Войтѣховичъ отъ жоны своей, отъ посерба Станислава конь (ПВЛ, 117, 1567);

жаловали намъ ... подстаростій Берестейскій Малхіеръ Райскій именемъ малжонки своей и пасербовъ своихъ (АВК, II, 135, 1568); Иванъ Прима Кужель — три четвертые волоки, сыновъ два — Иванъ, Калихъ, посербовъ два — Левко, Петрашъ Стецевичы (АВК, VI, 180, 1599); кгды емѹ таꙗ жона ѹме*р*ла, понꙗ*л* дрѹгѹю котораꙗ не сприꙗла посе*р*бо*м* ꙗко мачоха (Бельск., 78); по клавдею тиверию настѹпи*л* неро*н* пасе*р*бъ его, которыѕ бы*л* ве*л*ми ласкав на жиды (Там жа, 211); Жданѣ ... дано мужа еѣ помѣстье исъ тою частью што отдѣлилъ былъ имъ пасербъ еѣ Василей Рыковъ (АЗР, IV, 390, 1610); мелъ ездить до Слонима до пасерба Кудрыцкого для одысканья суконъ своихъ (АВК, XVIII, 250, 1619); тестаментъ малжонъка першого малъжонки своее теперешнее Зеновъи Спичылны, небожчика Сергея Гонъчарова, сыну ее, пасербови моему, Федору Сергеевичу належный ... зкгинулъ (ИЮМ, XXI, 458, 1626); жаловал и оповедал земенин гдрский воеводства Мстиславскаго пнъ Мартин Кисел ... именем пасерба своего Петра Олека (АВК, XXXIV, 9, 1654). *Параўн.* пасербокъ.

**Пасечищо, пасечисчо, посечищо** *наз. Тое, што і* пасека *ў* 2 *знач.* ѡнъ в нихъ ѡтънꙗлъ ихъ посечищо лꙗдо и попахалъ (КВЗС, 110, 1538); садовъ овощовыхъ, пасѣчищъ, земль бортныхъ, дубровъ ... кгвалтовне забралъ и посѣлъ (АЮЗР, II, 25, 1602); пасѣки и пасѣчисча, земли бортъные, дубровы ... забравши кгвалтовне на себе держить и уживаеть (Там жа, 40, 1610).

**Паска** *гл.* пасха

**Паский** *прым. Тое, што і* пашный *у* 1 *знач.* въ заднемъ сел(ь)цы бортникъ Головачъ, а то паская земля (КЗ, 30, 1445).

**Пасконный** *гл.* посконный

**Пасма** *наз. Пасма.* Пражи простичной пасомъ шесть (АВК, XVII, 442, 1565); бѣлокъ двѣ нитей 6 пасомъ, ужищъ 50 саженъ (АСД, III, 39, 1571); в клети взяли ... лну осмъ десятков. пражы, суконное пасом трынадцат (АВК, XXXVI, 60, 1582).

**Пасный** *прым. ад* пасъ *у* 1 *знач.* передо мною были покладаны цатки пасные чотыри серебреных (АВК, XXXIX, 597, 1579).

**Пасня** *наз. Тое, што і* пашня *ў* 1 *знач.* поступили есмо имъ тые вси грунты нашые ... забрати у волоки села ихъ Качовъ, а другие привернути ку пасни двору ихъ Почтовского (АВК, XXIV, 370, 1578); детемъ и потомкомъ его млсти тое имене звышъ пречоное Шловянское Пуртиковъское завел ... с паснею дворною и з огородами (АВК, XXXII, 285, 1596).

**Пасовиско** *наз. Тое, што і* паствище *ў* 1 *знач.* в ночы, на пасовиску, подъ огородомъ моимъ украдено ми кобылу шерстью половую (АВК, XVIII, 256, 1621).

**Первописаный** *прым. Першапачаткова запісаны, раней адназначаны запісам.* што были есмо дали кнзю юрью толочку *ѡт* рогачева *ѡт*тойма, а в ту землю первописаную не оуступатисѧ никому. нижь держѧть katовникомъ виленскимъ. къ стрѣшин(у) вѣчно, непорюшно (АЗР, I, 28, 1399).

**Первопоменены**й *прым. Першапачаткова названы, упамянуты.* вси станы... зволили и ухвалили позычити суму п[е]н[е]зей на полъ года на десеть тисчей люду первопомененого (КПД, 422, 1567).

**Первопрестолникъ** *наз. Асоба, якая займае першае месца сярод царкоўных іерархаў.* Прото, за надхненьемъ Духа Святого... завжды продкове наши были ... и первопрестолника въ церкви Божой тутъ на земли... вызнавали (АЗР, IV, 77, 1594); ѡ зве*р*хности епископа римъского, которого се наши брыдѧть, поведаючы юкобы не мель быти первопрестолникомъ и старшымъ на*д* всими епископы (Унія, 17б).

**Первореченый, первореченный, перворечоный** *прым. Названы, упамянуты раней.* пакъ ли тое перворѣченое село намъ ся бы слюбило, а любо которому нашему слузѣ поволили быхомъ е выкупити (АЗР, I, 46, 1424); особно боронитися маеть князь Иванъ Андреевичъ, на границахъ, отъ Татаръ, зъ господаремъ нашымъ первореченнымъ королемъ Казимиромъ за-одно, обѣюхъ земль ихъ (Там жа, 62, 1448); Дозволяем те*ж* тому месту пе*р*ворече*н*ному тро*ж*ды до году *яр*марок де*р*жати ку пожитку и*х* (ПГ, II, 155, 1498); бил нам чолом, обыхмо на то дали ему наш лист и тую пе*р*вореченую бобровщину о*т*пустили (ПГ, III, 13, 1507); не мають ани суть обвязани которых винъ платити але мещане первореч*о*ного места толко перед ихъ воитомъ который того часу будетъ (СДГВ, 156, 1607); ухвалили и постановили есмо, съ позволен[ь]емъ всихъ перворечоныхъ становъ, для способънейшое обороны того панства нашого и на жолнери ездные и роты пешіе серебъшчизну на три годы тымъ способомъ (КПД, 695, 1563).

**Первородное** *наз. Першыя, старэйшыя дзеці; першы прыплод; першынцы.* гсь нш҃ь на*д* оусеми бг҃и ... *ѡн* же порази*л* пе*р*вородное во египте *ѡт* чл҃ка а*ж* до скота (Пс. XVI, 131б); Прито*м* давали тыи жъ з$^{s}$ маетности своеи и на и*н*шіи розмаитыи потребы з$^{s}$ всего бы*д*ла свое*г* первоpо*д*ное давали (Каліст, I, 5б); оумре всѧкое первородное въ земли егѵпецкой *ѡт* первороднагѡ фараоновогѡ ... до первороднагѡ неволницы ... и всѧкое перьвородное з скотꙋ (Хран., 88б).

**Первородность** *наз. зб.* **1.** *Першынцы, старэйшыя дзеці.* Ѡныи пастоухове были первородности жидовскіе (Валх., 52б); оу днь последнии с тыми прешлехетными треми королми первородностѧми поганскими и девичими. на правици ис славною боудеш [!] посажено (Там жа, 95б); моꙗ ест всꙗ первородност мꙋзчизног рожаю (Бельск., 45). *Параўн.* первородство *ў* 1 *знач.*

**2.** *Тое, што і* первородство *ў* 2 *знач.* ѡт него шла первородност на свещенники, аж до аарона (Бельск., 10б).

**Первородный** *прым.* **1.** *Першы, старэйшы ў сям'і (пра першых сыноў, надзеленых асобымі правамі).* сына своего первородного намъ даси (КЗ, 454, 148б); оуставил штобы оусегды его первородный снъ и ине снве его подседковъ албо щадковъ тых трех королевъ именми возваны были (Валх., 91); старшии сын або первородныи которыи иное имене братьи своее ему не ѡтделеное не маеть ничого ꙋтратити (Ст. 1529—Ф, 55); пан бог... напрод ку великоѕ потешности дал нам первородного сына ꙗроша (Еўл., 18—19); кгды сынове твои и дочки ели и пили вино в дому брата своего первородного знагла вѣтръ квалтовныѕ припал з пꙋстыни (Біблія, 79); сатꙋрнꙋсами кролев стародавных посполите звано ... а сыны их первородныи иѡвишами, а дѣвки дочки юнонами (Стрыйк., 418); Принесли родичы ѡтроча во церковъ абы поставили его господꙋ ꙗко первороднаг (Зб. 255, 145—146б); абы и ѡное што речено было первородных сынех и ѡвое ѡ приношеню сꙗ з ѡфѣрами в церкви выполнил (Зб. 752, 525).

**2.** *У знач. наз. Першынец, старэйшы сын у сям'і.* Видѧчи бовѣмъ посланый Аггль, знакъ крове, здалека ѡдстꙋповал, а вѕ домы неназначеныи входилъ, и всѣхъ первородныхъ оубивалъ (Мак., 365); побил вси первородныи в земли египетскоѕ, начатки родꙋ их в мешканю хамовом (Пс. XVII, 68б); тыс рꙋвимъ первородныѕ моѕ ест, и тобѣ належитъ дидицство первородных и капланство и кролевство (Выкл., 27).

**3.** *Першародны; самы ранні (пра патомства, плады і інш.).* Хлѣбы квашеные нехай бꙋдꙋт печены с первородных жит гви (Каз. Кір., 90); первородные речи так з добитка ꙗко из землѣ бирали (Бельск., 20б); Авель теж офѣровалъ з первородныхъ овецъ своихъ из тлꙋсти ихъ (Хран., 11).

**4.** // *перан. У знач. наз. Асоба, якая мае вяршэнства, займае першынствуючае становішча сярод іншых асоб.* кролюютъ абовѣмъ зѕ Кролемъ нбснымъ вѕ нбсной цркви: и ꙗкъ онъ первороднымъ зѕ мертвыхъ, такъ и сіи первородными (Мак., 253); Хс

закон выполнꙗючи пріходит до цр̃кви, ꙗк чотырдесꙗти дній младенец, и ꙗкъ первородныи, не ѡ кождом первородном речено то было (Жыц. св., 125б); ѹчиню теж ꙗ его первородным, а наⁱвысшим над царꙗми земными (Пс. XVII, 89). ◊ Ц е р к о в ъ  п е р в о р о д н ы х ъ — *у багаслоўі — суполка, згуртаванне божых абраннікаў.* вышнѧѧ цр̃ковъ первородныхъ на нбсехъ, южъ не маетъ пелⁱкгрымѡвъ альбо сѹсѣдей, але мешканцовъ и ѡбывателей побожныхъ (Карп., 7); Великой прето пилности потреба вⁱ достѹпленьи ... мѣста стыхⁱ, нбсногѡ Іерслімѹ и церкви первородныхъ (Мак., 339); згола и ѡнъ нбснаго ѡного иерѹсалима зосталъ мешканъцемъ в котором церъковъ первородныхъ естъ (Пралог, 557б).

**5.** *Які мае адносіны да першых, старэйшых сыноў у сям'і.* абы емѹ дал благословенство первородное первеⁱ ниж ѹмрет (Бельск., 21). ◊ П р а в о  п е р в о р о д н о е — *аб правах і прывілеях, якімі надзяляліся першыя, старэйшыя сыны ў сям'і.* собрал воⁱско псковское новгородское и рѹс хотꙗчи воⁱною доходит права своего, первородног под молодым братом (Стрыйк., 530б); измаил, ꙗко старшимⁱ бѹдѹчи, и первеи ѡбрѣзаным, привлащал собѣ право первородное, з Исаака сꙗ наиграваючи (Выкл., 18).

**6.** *Спрадвечны; прыроджаны.* невинности ѡноⁱ треба справедливости первородноⁱ (Зб. 261, 121); тым се грѣх его первородныⁱ ѡчистил (Бельск., 206); вси панове кнжата и боꙗре на то и слова мовит не дали, боронечи в том и перестерегаючи зацности заволанꙗ и первородных власностеⁱ народѹ своег (Стрыйк., 527); кр̃щеніа або покѹты банею грѣхи омыемѡ: зⁱ которои кгды тѧжкій оный первородный тѧжаръ зложивши выйдемѡ, тогды безпечне мовити можемѡ, ѡтче нашъ иже еси на нбсехъ (Каліст, II, 35б); Крещеніе естъ омытіе грѣха первороднаг (Навука, 12); Любо бѹдетъ первородный грѣхъ, ꙗкѡ вⁱ малыхⁱ немовѧткахъ: Любо и оучинковый; ꙗко вⁱ дорослых не ѡкрещеныхъ. Тые зась грѣхи ... през тайнѹ, алболи сакраментⁱ, покаѧніѧ выглажены бывают (Дзід., 5—6); в крещении позбываетсꙗ трѹдъ первородныⁱ (Зб. 259, 524б); вⁱ Цр̃кви Бж̃ой, естъ сакраментъ стаго крещеніѧ, который ... гладитъ грѣхъ первородный (Зб. вып., 97).

**Первородокъ** *наз. Першынец, першы сын у сям'і.* Первородков теж там свещенники ѹживат бѹдѹт (Бельск., 58).

**Первородство, перверодство** *наз.* **1.** *Тое, што і* первородность *у* 1 *знач.* все первородство помре (Бельск., 44); Вахирⁱ, бероѻ: Первородство, зⁱ пол: первѣснки (Бяр., 253).

**2.** *Асобыя правы, прывілеі, якімі, згодна з архаічным правам, надзяляліся першыя сыны ў сям'і.* реклъ иѩков: прода[s] мнѣ первородство свое (Біблія, 58); так под присгою здал емꙋ первородство свое, за потравꙋ сочивицꙋ (Бельск., 20б); Пръвенство: Первенчество, первородство (Бяр., 103); которомꙋ реклъ Іаковъ: продай мнѣ перверодство свое (Хран., 39б); ꙋтратилес право первородства (Выкл., 27). *Параўн.* первородность *у 2 знач.*

**3.** *Спрадвечная, прыроджаная ўласцівасць.* да ꙋ том то западе сл҃нца первородьства своѧ и вѣрꙋ поганскꙋю цнотами и дивы досветчили (Валх., 38б).

**Перворожененць** *наз. Той, хто нарадзіўся, з'явіўся на свет першым; першы прыплод.* Перворожененць ослѧти измениши овцею (Скар. КВ, 26б).

**Перворожение** *наз. Першародства.* дасть ему всего имениѧ своего две доли, ѩко тои ꙋбо есть початокъ сыновъ его, и на него прислꙋшить перворожение (Скар. ДЗ, 42); к нему же рече ѩковъ продаи мнѣ перворожение свое (Скар. КБ, 46).

**Первороженый, перворожениый, перворожоный** *дзеепрым.* **1.** *Які нарадзіўся, з'явіўся на свет першым.* приносити тꙋ будете ... слюбы и дары и перворожениыѧ волы и овце (Скар. ДЗ, 27—27б); жена ... перворожепого сына ее именемъ брата своего назоветь (Там жа, 47б); выбил каждꙋю речь перворожонꙋю в земли ихъ (Пс. XVII, 112).

**2.** *У знач. наз. Той, хто нарадзіўся, з'явіўся на свет першым.* Глава ѕ҃і... о посквернении и о выкуплении перворожеңыхъ (Скар. ДЗ, 32); наипервеи было загубение перворожениыхъ (Скар. ПБ, 28б).

**Первосаженый** *прым. Першапачаткова ўведзены, распаўсюджаны.* Сей пречестнй [!] ꙋчитель церковъ нашꙋ Виленскꙋю в побожности овоцы почасти зазѧблꙋю, до звыклои Бл҃очестивымъ (онои ст҃ои первосаженои Церкви ст҃ыи ѡбычаи в ней ѡтновивши) плодовитости ... зрѧдил[s] блгдтію Хсвою способнꙋ, и выдалъ оурожайнꙋ и плодовитꙋ (Сматр., 42—43).

**Первосветитель** *наз. Першы сярод сваціцеляў, асоба найвышэйшай святасці (пра Ісуса Хрыста).* ѡнъ даръ бг҃у. а самъ первосветитель и бг҃ъ превѣчный ѡнъ за весь миръ принесенъ. а самъ приношѣние приимаеть (Чэцця, 134).

**Первосвященникъ** *наз.* **1.** *Першасвяшчэннік (у старажытных яўрэяў).* хотѧ жъ вышей ... и инде выкладалъ: первосщ҃ѣнники: вѣдьжѣ видѣчи быть то не власный выкладъ кладеть ото грѣческие слова которих[s] часто вышей и ніжеі найдеш[s] (Цяп., 27б).

2. *Духоўная асоба вышэйшага сану.* Таковъ нам^s подобаше первосщ҃нникъ, преподобенъ, незлобивъ, бескверненъ, и ѡтлученъ ѡт грѣшникъ (Будны, 127б); пре невымовное мнѡзство доброти своеи первосщ҃енникомъ нашим быти зезволилъ еси (Каліст, II, 239).

**Первоседалникъ** *наз. Першынствуючы свяшчэннаслужыцель; старэйшы з сабраных з якой-н. нагоды асоб.* грека тотъ ѡтцъ Никифор Азар Протасы^s се^s ꙗко бы первоседалникъ по патриарсе, пытал што то за кголкъ (Барк., 150б).

**Первоседанье** *наз. Старшынства сярод духоўных асоб, сабраных з якой-н. нагоды.* особливе тобѣ то признаваю, же сѧ о тое першее мѣсце и первосѣдане на синодѣх всѧкимъ способомъ а иногды не без фѡртеловъ римскіе бискꙋпы старали (Апакр., 147).

**Первоспы** *наз. Перыяд паміж вечарам і поўначчу, час першага начнога сну.* болеслав ... в недѣлны^s ден праве в первоспы з ѡгромным ѡкрыком на них ꙋдарил (Стрыйк., 464); тамъ же тое ночи въ самые первоспы панъ Есьманъ Андреевичъ Горбачевский и зъ сынами своими ... подъехавши чолномъ до чолна нашого (АВК, XVIII, 399, 1660). *Параўн.* первоспь.

**Первоспь** *наз. Тое, што і* первоспы. помененые Римашевскій зъ помочниками... въ ночи въ самой первоспи ... не мало богатыхъ сплендоровъ ... выкрадши, до мѣста Межирѣча зъ тымъ всимъ поуходили (АВК, V, 77, 1695).

**Первостина** *гл.* первотина

**Первостокъ** *наз.* **1.** *Тое, што і* первястокъ *у* 1 *знач.* Мовлю теды, што напервей выникает^s, не есть то первостки. Недозрѣлый абовѣм^s овоцъ не есть пожитечныи (Каліст, I, 150б); тои ѡвоцъ первостки чинит, которыи дозрѣлыи и в порѣ сталыи ест (Жыц. св., 146б).

**2.** *Тое, што і* первястокъ *у 2 знач.* тыхъ всѣхъ добродѣйствъ нынѣшный день матеріею былъ, и ꙗкобы первостки прироженѧ нашего Бг҃ꙋ далъ (Каліст, I, 150).

**Первость** *наз.* **1.** *Ад* первый *у* 3 *знач.* г҃ь же блсвилъ послѣдокъ иевовъ ѡт первости его и было оу него д҃і тисѧчеи ѡвець и ҂ѕ҃ верблюдов (Зб. 262, 30б); мы ... напомꙗнаны абысмы землю волынскую ... кролевствꙋ полскомꙋ привернули а въ е^s первость и цэлост вщепили (Прыв., 107б—108).

**2.** *Ад* первый *у* 5 *знач.* Пръвство: Первость, станъ, достойност, ѯѧнство, панство (Бяр., 103).

**3.** *Ад* первый *у* 10 *знач.* ѧ розꙋмъ и моѧ хоробрость ... ѡт века господствовала есми сперва ѡт первости земли: въ нѣтствѣ потоков чс҃тнѣиших вод (Зб. 262, 97).

**4.** *Ад* первый *у* 11 *знач.* ми вріадовне на том полдому первость права ... заховат и то до приезду мужа моего Ивана у заведеню вріаду своего мет рачили (ИЮМ, XXXII, 4, 1578); Ісак жыд ... просил уряду, абы ему через уряд арештъ и первость права допущоно было (АВК, XXXIX, 351, 1579); который зъ нихъ первость зачатя справы своее довести могъ (ИЮМ, VII, 423, 1588).

**5.** *Першыя плады, першае патомства, першы плён працы.* Товиꙗ ... ходи*л* до иерꙋсалиму до це*р*кви гсднеи, и та*м* се кланꙗ*л* гсдꙋ богу израи*л*скому, пе*р*вости и десꙗтины свои вѣрне ѡферꙋючи (Біблія, 586); Реклъ гсдь до Мѡѵсеѧ мовѧчи: мовь сн҇ѡмъ Ізраилевымъ, абы мнѣ взѧли первость ѡ*т* ко*ж*дого чл҇вка, а то есть первости, ѕолото, сребро мѣдь и Акѵнфъ, и шарлатъ (Хран., 101б).

**Первотина**, **первостина, перьвотина** *наз. Першыя плады, першае патомства.* пожнете збо*ж*е принесете снопы колосо*в* пе*р*вотины жнива вашего до свеще*н*ника (Біблія, 172); Первостины збожьѧ земли твоеи принесешъ до домꙋ гс҇да бг҇а твоего (Хран., 100б); Если дочка сщ҇енническа пойде за когѡколве з людꙋ, з речіи посвѧчоныхъ и з первотинъ не бꙋдетъ ела (Там жа, 124); ѡ*т*толе ꙗкѡ почали оферованы перьвотины в[s] домꙋ гсднемъ, ѣли есмо, и были есмо насычени (Там жа, 343).

**Первохрестьянский** *прым. Першы сярод хрысціян.* первохрс҇тьꙗньски*м* цр҇ь. и чс҇тныи архиерѣи ... повелѣша крс҇тъ показати люде*м* (Чэцця, 26).

**Перву** *прысл. Тое, што і* перво *ў* 1 *знач.* перву увезанье учинившы в тые именья вси твои, тебе за се быломъ прывернулъ (АВК, XXVI, 471, 1586).

**Первше** *прысл. Тое, што і* перше. умоцованый поведилъ ... первше, нехай менить, якие тунимента и што показать хочетъ (ИЮМ, XXII, 391, 1668).

**Первший**, **первшый** *ліч. і прым.* **1.** *Тое, што і* перший *у* 1 *знач.* Нашъ староста ... чтеры артыкулы на замку ма судить: первшы артыкулъ, о розбитье альбо о злупенье на добровольной дорозѣ, альбо о крадежъ (АЗР, I, 224, 1501); Говори первшую часть гасла хр҇тіаньского (Будны, 115); первщый мамрам на тестаменте под печатю и с подписом дей руки его (АВК, XXXVI, 3, 1582); Селко паробковъ домы два; въ первшомъ подворьи паробокъ именемъ Банюлисъ Енайтисъ, жона его Ядвига (АВК, XIV, 500, 1594); ꙗ*м* ... злэ сны ѡ ни*м* видꙗ*л* и написалэ*м* бы*л* в минуцыꙗ*х* тогоро*ч*ни*х* ꙋтешившисе же было то в пе*р*вши[s]

кварта*л* мца (Еўл., 51—52); первшый листъ кнегини Семеновоѣ Ульяны Кобрыньскоѣ и сына еѣ князя Ивана (АЗР, V, 3, 1633); Писанъ въ Кракове ... року ... тисеча шестьсотъ тридцать третего, панованя кролевствъ нашыхъ Польского и Шведского року первшого (АВК, I, 73, 1634); Капла*н* ... на первшой слꙋжбѣ Бж҃ой, не повѣненъ по испѣтіи крове Хрс҃та Іс҃а, пѣти простаго вина (Зб. вып., 29б).

**2.** *Тое, што і* перший *у* 2 *знач.* первыи намѣстники Смоленскіи ... первшымъ владыкамъ кривды дѣлывали (АЗР, I, 143, 1494); намъ ся сꙋдыѧмъ видело, штожь ѡни не гораздо грабили такъ за долекꙋю речь, а въспоминанье томꙋ не было за перъвшихъ воеводъ Виленскихъ (КСД, 37, 1510); она ... долги первшого мужа поплатила (РПіТ, 187, 1556); там первшый копец заложыли (АВК, XXXVI, 237, 1582); ту*р*цы короле*в*ство свое зачали, и з отоманьского домꙋ и фамилеи пе*р*вшого собе королѧ ѡбрали (Бер. саб., 41б); Яко-сь перший разъ былъ въ Долгиничахъ, быломъ въ томъ престрежонымъ (АВК, XVIII, 172, 1600); Кро*л* его м*лт* мешка*л* того лета в городне ѡ*т*почиваючи ѡ*т* пе*р*вших пра*ц* свы*х* (Еўл., 33); тотъ есть оу хрстіанъ пе*р*вшимѕ квитнꙋчимѕ мѣсѧцемъ, и есть зѕмертвыхъвстанѧ часомъ (Мак., 57).

**3.** *Тое, што і* перший *у* 3 *знач.* маеть хве*д*ко... земълю еѕ подати во*д*ле пе*р*вшого ꙋвѧза*н*ѧ (КВЗС, 10б, 1533); абы князь и панъ и кажъдый справъца або наместъникъ оного имен[ь]я ... за первщымъ объжалованьемъ и обосланьемъ справедливость вчынилъ (КПД, 265, 1554); абы ... часу рушенья первшого ку границамъ Иѳлянтъскимъ ... сами съ поветы сторожу заступовали есте (Там жа, 275—276, 1559); хотѧ сторона позванаѧ не станеть на роки первшые то*г*ды прэ*д*сѧ су*д* не маеть ѡ*т*кладати на да*л*шые другие роки (Ст. 1566, 50б); мещанинъ ... маеть заплатить певного долгу... на первшы рокъ отъ сегоднешнего днiа за две недели (ИЮМ, XXX, 16, 1577); Те*ж* ѡбецуемъ ... кому бы шло ѡ честь, прꙋдкꙋю а неѡ*т*волочную справедливость ꙋчинити, на пе*р*вшомъ близко пришломъ соѕме великомъ вальномъ (Ст. 1588, 36).

**4.** *Тое, што і* перший *у* 4 *знач.* ѧ первшых витезеи витез (Трыст., 125); Хотѧчій читати наоучитисѧ, идетъ и оучитъсѧ характировъ литери, где бꙋдꙋчи первшимъ, постꙋпꙋетъ до школъ Грецкихѕ (Мак., 155). ◊ П е р в ш и й з ъ п е р в ш и х ъ — ***найлепшы, найвышэйшай годнасці (пра чалавека).*** на ѡдной оногѡ пе*р*вшого зѕ пе*р*вшихъ и пре*д*нѣйшихъ всегѡ свѣта мꙋдрцевѕ Соломона премꙋдрогѡ се*н*тенціи, ве*с* свѣтъ переставаетъ (Мак., 2).

**5.** *Тое, што і* перший *у 5 знач.* первши[s] з кнѧжат и панов царскихъ нехай держит конѧ его (Біблія, 581); Межи сенаторами былъ ѡдин, который первшым был[s] на дворѣ кролевскомъ, чл҃къ доброго живота (Варл., 21б); часов ѡных аримане в цесариеи мѣсте первшим каппадокиеи црков бж҃ию стискали (Жыц. св., 65б).

**6.** *У знач. займ. Названы раней.* ѧкими были Неро, и Герострате*с*, албо Флѧгіас лотрикъ, з которых первшы*и* ... прагн*ѹ*л[s] и зычилъ собѣ, жебы албо земли пожартем згинѹль, албо перѹномъ былъ забитым (Паўуст., 3б).

**7.** *Найважнейшы, найістотнейшы.* к нашему гѹѡу таѧ есть речь первьша и потребнеиша (Троя, 3б).

**Первшость** *наз. Першае месца, першынство.* иншее есть первшость порѧдкѹ, а иншаѧ первшость власти и старѣишинства (Апакр., 95); Перед тымъ часѡм во всѣхъ исторіѧхъ костелныхъ не найдоуемо, абы ѧкаѧ первшость звирхности им присоужона быти мѣла (Там жа, 124); Дрѹгій зась ... которій оу Мнихѡвъ найпредънѣйшій, первшость маючи, и того звано Макаріемъ (Мак., 11).

**Первшый** *гл.* перв*ш*ий

**Первшыйнадцать** *ліч. Адзінаццаты.* на первшомънадцать местцы, на урочищы Ревези поля на двохъ нивахъ моркгъ одинъ (АВК, XXIV, 132, 1552).

**Первый** *ліч. і прым.* **1.** *Першы, пачатковы ў лічбавым радзе.* сеножать первая, называющаяся Черница, другая Прехода (АСД, I, 6, 1507); неволницы мають быти четвераких причин первые которые здавна в неволи суть, або з неволных сѧ родили, другие которые полоном заведены суть зъ земли неприѧтелское (Ст. 1529—Ф, 145); листов нашых заповедныхъ ... давати не будем ѡкроме тылко трэх члонков ... первого коли бы хто ѡ рэч посполитую ѹ непрыѧтелеи ншихъ ѹ везэню был (Ст. 1566, 13б); дванадцати апсловъ имена сѹть тые. первый симонъ, которий реченъ петръ (Цяп., 12б); ѡные судьи ѡбраные ... ротою сѹдьи земского в статѹте в розделе четвертомъ, артыкѹле первомь ѡписанѹю присегѹ ѹчинити маютъ с тымъ докладомь (Трыб., 3); подалъ артыкулъ осмнадцатый, зъ розделу первого, же отецъ за сына, а сынъ за отца не повиненъ терпеть (АВК, XVIII, 162, 1598); Книга перваѧ. Роздѣл еі҃. ѡ царех Грецких и ѡ иных (Бельск., 112); Томѹ, который причащаеть людей, потреба ... абы мѣлъ здоровый палецъ первый и вторый десныѧ рѹки (Зб. вып., 25).

**2.** *Які папярэднічае ўсім іншым аднародным або падобным прадметам, асобам, з'явам.* уставлѧемъ право. за первꙋю простѫпкꙋ перваг позваныꙗ а на рок нестанˢе тогды слꙋжебнікъ съ двема слꙋгами сꙋдъ его имаеть ехать до тых всех (Вісл., 16б); тен ... вшистки шпици преминул своею моцью забежал к первои (Троя, 36б); пакли бы мачоха не мела детеи с тым мужом своим, тогды маеть так же с первыми детми въ имени часть ровную мети (Ст. 1529—Ф, 43); на тотъ датокъ ихъ первыˢ ... давано по петидесꙗть золотыхъ черленыхъ (КВЗС, 18, 1533); даи имъ заплату, почонши ѡт посьледніхъ до пѣрвыхъ (Цяп., 27б); первыˢ раз карают бичом дрꙋгиˢ раз толко два разы третиˢ раз рꙋкꙋ ꙋтнут (Наб. тур., 23); толко кнꙗжат первых то ест киꙗ зˢ его братею ꙗко фундаторов мѣст и замков рꙋских положоно в пісме (Стрыйк., 437); перваѧ то моѧ и остатнѧѧ з мѣстца сего розмова (Сматр., 12); многіе скарбы безчисленныи первыхˢ царей знашолъ ѡт чистаго золота (Алекс. 1697, 30).

**3.** *Старэйшы (сярод дзяцей, у родзе).* Отъ нашего перъвого дяди и отъ последнего дяди братья есмо межи собою (КЗ, 355, 1484); всѧкии ... сн҃ъ первыи оу мт҃ре свѧт есть (Чэцця, 137—137б); Meł szest synow. Perwy był Wołodymir kotory meł udeł Kijew (Быx., 500); Ѡ первых дѣтꙗх Адамовых (Бельск., 6).

**4.** *Ранейшы; даўнейшы.* пѣрвых ѡбычаевъ сѫды бывали сꙋжены безъ часꙋ (Вісл., 13); зм҃лѧ ст҃аꙗ и оуси речи тамо верноутсе. оу добрый станъ первый (Валх., 91б); присудили ми и ихъ милость досталь тыхъ пенязей, подлугъ нашого первого торгꙋ, двадцеть копъ грошей и двадцеть грошей и три сꙋкна (КСД, 52, 1510); засмоутилос во мнѣ срдце мое. вспомнил есми дн҃и первые (Пс. XVI, 137—137б); они сами сознавали, ижъ они николи за первыхъ пановъ, которие ихъ держали не отнималися (АВК, XVII, 261, 1541); Лавъники прысегати мають водле первое уставы (КПД, 587, 1557); тогды таковыˢ первыˢ привилеˢ або листъ при моцы мает зостати (Ст. 1588, 43); воротила се вода на першомˢ свитанью на первое мѣстце (Хран., 92б). ◊ П о п е р в о м у — *па-ранейшаму.* которіе къ вамъ ходять люди наши по первому, какъ при отцы нашомъ бывало, такъ не чините — тые люди лихо пришли (КЗ, 353, 1484).

**5.** *Які з'явіўся крыніцай або аб'ектам дзеяння раней за іншых.* которыи теж гсноу первыи с поганьства девице достоеньство ѡферовали (Валх., 66); протослеꙋс крол ѳилѧрдуром которыˢ первыˢ был ... на землю выити ꙋсиловал (Троя, 19); ꙗ человѣкъ смертелныи ... из роду земъскаго, с того з него же и первыи

сотворенъ естъ (Скар. ПБ, 11); Ачъкольве и Адам первыи по тому же ѡбразу былъ созданъ, але и тогды жь ꙋтратилъ заповѣдь божію проступивши (Будны, 12—12б); Той теды есерꙋхъ был ѡсмыѕ по справедливом ною, а балвохвалца первый (Біблія, 31); хто з вас без грехꙋ ест первыѕ нехаѕ на ние камень кинет (Зб. 255, 20б); первыѕ пред всими на молитвꙋ до церкви приходилъ (Зб. 259, 591б).

**6.** *Які з'явіўся ўпершыню ў сезоне, ранні, новы (пра з'явы прыроды, расліны і інш.).* Не будете мощи ести во градехѕ вашихъ десѧтинъ жить вашихъ ... еже обещаете или доброволне принести восхощете гсду и перъвыхъ плодовъ ѡт роботъ вашихъ (Скар. ДЗ, 28); Присмотрисѧ законодавцовой опатрности, первого овецꙋ и ести не позволѧетъ, и впередъ, нѣжли бы Бгꙋ офѣрованѕ былъ, оуживати его заказꙋетъ (Каліст, I, 151); три витины онъ — панъ Волкановскій мѣлъ имъ выставити ... до пристани надъ тою рѣкою Вельею, въ Вязыни перевозу Касуцкого ... на первую воду (АВК, VIII, 507, 1623).

**7.** *Першынствуючы, старэйшы, найгалоўнейшы.* Стый ѡлексѣи был снъ евфимиѧнов моужа прешлѧхетного римлѧнина оу домꙋ цесарском первыи (Жыц. Ал., 97); мордохаи юдѣꙗнинъ первыи по цри ахашьвероша и великъ юдѣемъ (Зб. 262, 133); абы кождыѕ знал преложоного над всим египтом, а ... чтит его ꙋмѣл, ꙗко первог по цари (Бельск., 29); маеть быти богатый, и можный, и всѣхѕ первыхъ кролевъ маеть первышшити (Варл., 19—19б); Протопопа: Первыи Попѕ межи Попами продкꙋючіи (Бяр., 304).

**8.** *У знач. наз. Чалавек, які займае першынствуючае становішча сярод іншых.* наближшии к немꙋ ... семъ боѧръ перьскых и мадаискых лицевидци црвы сѣдѧщіи оу первых оу црства (Зб. 262, 127); Мъногіе пакъ бꙋдꙋть первые, посьледними, а посьледние первыми (Цяп., 27).

**9.** *Лепшы.* палꙗмидес ... оу греков медци венцеишими перьвыи был (Троя, 15б); ѡградъ замкненыи ... мирра и алоесъ со всеми перъвыми мастѧми (Скар. ПП, 6б); в церкви ерꙋсалимскоѕ мѣстце первое мѣли до гаданꙗ розмовы и ѡ законѣ бжом и писме стом (Бельск., 201); Побѣгши прето до первого, и над всѣхъ иншихъ милшого пріѧтелѧ, реклъ до него (Варл., 113б—114); Прохорѕ ... первыи в танци аб на крылосѣ (Бяр., 304).

**10.** *Найважнейшы, найістотнейшы.* се естъ первый знакъ, иже сѧ сіа рѣчь Петра Апла не о томѕ съшествіи розумѣеть ...

ꙗкобы Хс̑ дш̑ею по дш̑и ст̑ыхъ въ адъ исходилъ (Будны, 139б); То есьть первое и большое приказанье (Цяп., 31 б); За первꙋю, того презацного мѣста, прерокгативꙋ, то положоно быти можетъ (Карп., 29); Была емꙋ в оуфность готовости и едина егѡ перваѧ по Бг̑ꙋ оутѣшнаѧ оутѣчка, Пречстаѧ преблг̑гословеннаѧ преснѡ Дв̑а Бдца (Сматр., 48); то *ест* набо*л*шое и пе*р*вое приказа*не* (Зб. 255, 205б).

**11.** *Названы раней.* другое сто корабле*в* ... не та*к* бо*р*здо на зе*м*лю выступили ꙗко первы*и* (Троя, 20); и тые тое жъ сказывають што и первые (АЗР, IV, 465, 1615); з[s] которых[s] первый терпливе и скромне Фарисеово нарꙋга*не* знесши, грѣхѡ*в* позбылъ (Каліст, I, 61); Сакрамент[s] значит[s] речь ст̑ꙋю, и о тых[s] сакраментахъ маемо мовити, а не о двꙋхъ первыхъ (Зб. вып., 1).

**12.** *Бліжэйшы, першачарговы.* кгды черезъ тыхъ особъ, на то отъ васъ обраныхъ, оный статутъ будетъ поправленъ, тогды потомъ, на первомъ соймѣ ... мають оные артыкулы быть ухвалены и приняты (АЗР, III, 6, 1547).

**13.** *У знач. наз. Першы пункт (пры пералічэнні).* до жадны*х* судо*в* давати не буде*м* ... ѡкроме то*л*ко тре*х* чло*н*ковъ. первое коли бы хто ѡ ре*ч* посполитую в неприѧтеле*и* наши*х* в нѧ*т*стве бы*л* (Ст. 1529—Ф, 7); ѡпрочъ трехъ причинъ ниже[s] тутъ помененых перъвое где бы сторона поводоваѧ року и позваньѧ ... не довела (Ст. 1588, 150).

**14.** *У знач. наз. Першапачатковая лічба, колькасць.* з местъскихъ и иныхъ реместниковъ, жидовъ, татаръ и иныхъ людей половицою меншъ отъ перъвого маеть быти выбирано, и з ыменей нашихъ до скарбу нашого ... отдавано (КПД, 864, 1566).

**Первыйкроть, первыйкротъ** *прысл. Першы раз.* Тежъ маетъ онъ дворы наши жомойтскіи и вси волости наши тамошніи объѣзджати, въ кождый годъ по два разы, первыйкроть о Взятью въ небо панны Маріи Матки Божьи, а другійкроть о Нароженьи Божьемъ (АЗР, II, 185, 1527); таковы[s] маеть пе*р*выикротъ ѡ*т* присѧги ꙋ̑ти сꙗ са*м* ѡденъ (Ст. 1566 I, 102).

**Первыйнадесять** *ліч. Адзінаццаты.* Писанъ и данъ у Вилни, въ лѣтъ седмое тисящи первоенадесять (КЗ, 854, 1503); мѣсяца Ноября въ третій день, индикта первогонадесять (АЗР, II, 30, 1507); Сталося и дано в Берести, на великом со*и*ме, лета бо*ж*(ь)его тисяча пятьсот пе*р*вогонадеся*т*(ь), м(е)*с*(я)ца июля двадъцать третии день (ПГ, III, 91, 1511); Лѣта первагонадесѧть Іорама сына Ахавова царѧ ізраилева царствовал[s] ѡхозиѧ надъ

Іюдою (Скар. ЧЦ, 204б); Въ первыи на десѧт дн҃ь мр҃твіи востаноут (Сівіла, 10). *Параўн.* первыйнадцать.

**Первыйнадцать, первыйнайцять** *ліч. Тое, што і* первыйнадесять. на другій годъ такоежъ маетъ намъ початку дати двѣстѣ золотыхъ... на Божье Нароженье, которое будетъ индикта первого-надцать (АЗР, II, 1, 1506); писал Омельян Санкович в лето по божьем нароженѣи тисеча лет и пятьсот первогонадцать году по семои тисечи девятогонадцать лета июля шостогонадцать дня (ПГ, III, 83, 1511); Розделъ первыˢнадцат ѡ головщины людеˢ путных и мужицкие и паробацкие (Ст. 1529—Ф, 139); первыˢ рѹбеж в дѹбе ... дрѹгое сто сажонъ рѹбеж ѹ кленѹ ... первонадцать сто сажонъ въ ели (КВЗС, 115, 1539); писанъ ѹ вильни ... мц҃а сентебра двадцатого днѧ инъди[к]тъ перъвыˢнадцать (КВС, 530б, 1552); онъ зъ поддаными и помочниками своими въ року теперешнемъ пятьдесятъ пятомъ, мѣсяца октобра, первогонайцятъ дня ... тотъ весь медъ до себе побралъ (АВК, XI, 24, 1556); тая сума пенезей... на день святого Мартина месяца ноябра первогонадцать дня до того шпиталя старшому шпитальному отдавана была (АВК, I, 17, 1596); Писан ѹ варшаве на сеˢми валномъ лета бж҃го нароженѧ, тисеча пѧтсот деветдесѧт второго мц҃а ѡктобра первогонадцатъ днѧ (Дыяр., 155).

**Первястокъ, первястекъ** *наз.* **1.** *Першы плод, першы плён.* свѧто кѹчокъ на памѧть мешканьѧ в пѹстыни и тамошнихъ невчосовъ [!] их и бѣдъ: тоежь и часѹ жнива свѧто, первѧстокъ працы твоей, штоколвекъ сѣѧлъ на рольи (Хран., 100б); Дѣтии твоих и первѧстекъ ... в жидовским лепакъ (зѹпелности твоеи и лзы твоеи) а презˢ зѹпелност розѹмѣют ѡбфитост збожа ѧко и през лзы вино и ѡлѣй ... LXX и халдеушъ прекладают, первѧстки збожа и прасы, вѹлгата ѧснѣй прекладает, десѧтины и первѧстки ѡтдаси мнѣ (Выкл., 42). // *перан. Першы ўзор, прыклад, першая спроба; прадвеснік.* ѧкъ мовить писане. Жебысмы были нѣѧкими первѧстками створеньѧ егѡ (Мак., 382—383); самъ Пн҃ъ досконалое, и смерти оуже неподлеглое, Воскрсніе почалъ ... и оумерлымъ до повстанѧ первѧсткомъ сѧ сталˢ (Варл., 71); ѡднакъже з первѧстковъ нѣѧкихсь и ѧкобы надорожныхъ ѡказиˢ, бл҃женѣˢшого мужа Ст҃ого живота постановенѧ послухаˢмо (Пралог, 558б); пише тоˢ филонъ... и ѡ свѧтыхъ звычаѧхъ церкви бж҃ои вˢ ѡныхъ Первѧстъкахъ дх҃а ст҃ого и поданъѧ всехвалъныхъ апостоловъ (Там жа, 620). *Параўн.* первостокъ *у* 1 *знач.*

**2.** *Першааснова, першаэлемент.* Болшимъ за него есть Апсли з^s высокости ѡд Бга роженыи, которіи первѧстки Дха оутѣшителѧ взѧли (Мак., 273—274). *Параўн.* первостокъ *у* 2 *знач.*

**Пергаменъ** *гл.* паркгаминъ

**Перебачати** *дзеясл.* **1.** *Пераглядаць, аглядаць усё або многае, праглядаць.* ѡко Бжее на самый оумыслъ и на помышленѧ погладаетъ и ꙗкобы назираетъ и перебачает^s (Мак., 103—104).

**2.** *Прадбачваць, прадчуваць.* не ꙋстыдалисꙗ потом великие цари и монархове того свѣта там чинити дороги, перебачаючы всꙗкиꙗ трꙋды и невчасы (Зб. 752, 412б).

**3.** *Нядбайна адносіцца да каго-, чаго-н.; пераставаць клапаціцца аб кім-, чым-н.* кгды оувидишъ нагого, приѡдѣй его, а тѣла своего не перебачай (Каліст, I, 34б); Важнѣйшаѧ есть речъ голодомъ мрꙋчихъ оубогихъ перебачати, нѣжли з^s несправедливой маетности кормити их^s (Каліст, II, 194б).

**4.** *Тое, што і* пробачати. млсрдіе ѡказꙋетъ противко всѣм, ижъ все может, и перебачает^s грѣхи людские длѧ покꙋты (Варл., 149).

**Перебаченый, перебачоный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* перебачити *ў* 1 *знач.* Ани тежъ доброть без заплаты перебачена бꙋдет (Кін., 63б).

**2.** *Ад* перебачити *ў* 2 *знач.* длѧ тогожъ не перебаченъ былъ старшій мытникъ сей, лихоимецъ и несправедливый (Каліст, II, 196б); шляхтичъ упрашаетъ, ажебы тотъ першій его поступокъ былъ перебачоный (АВК, V, 78, 169б).

**Перебачити** *дзеясл.* **1.** *Тое, што і* пробачити *ў* 1 *знач.* неприꙗтели вас перебачили и здрадили мадианитове (Бельск., 65); если видишъ нагого приѡдѣй, и з^s своего збожа не перебачъ его (Каліст, II, 187); Презрѣ: Перебачилъ (Бяр., 120); Стан^sмо (мовит) ѡбадва на млтву сну, и всꙗко ласкавы^s и милосерды^s гдь, молитовъ не перебачит нашихъ (Пралог, 560).

**2.** *Тое, што і* пробачити *ў* 2 *знач.* ми то перебачити рачишъ (Стрыйк., 469); Тебе зас ласкавый читателю просим^s, абысь помылки дрꙋкарскіе мꙋдрымъ розсꙋдкомъ своимъ перебачити рачилъ (Дзід., 31); Савль згрѣшивъ, же перебачивъ Амаликꙋ королю, любо Бгъ не казавъ перебачити (Зб. вып., 36).

**Перебачоный** *гл.* перебаченый

**Перебегати** *дзеясл.* // *перан. Ахопліваць, уключаць у сферу свайго ўздзеяння.* ꙗкъ квасъ все тѣсто квиситъ: такъ квасъ грѣха весъ Адамов^s рѡдъ перебѣгает^s (Мак., 22).

**Перебегатися** *дзеясл. зв. // перан. Пераплятацца, паравівацца.* Сын прирастаючий иѡсифъ и сличны^s на во^sзреню, дочки перебѣгалисѩ на мурѣ, але розѩтрили его и сварилисѩ (Біблія, 104).

**Перебегчи** *дзеясл.* **1.** *Перабегчы (праз што-н.), бягом перасячы што-н.* онъ ... перебегши ми дорогу, вскочилъ на мой возъ (АВК, XVII, 182, 1540).

**2.** *Хутка пераадолець (што-н.), пераправіцца цераз цяжкае для праходу месца.* perebehsze reczku Wedroszu, ko swoim welikim połkom, y tam opołczywszesia stali (Бых., 560); Алеѯандеръ теды перебѣгши реку краму, пришо*л* к*ꙋ* кнѧжати своему евмул*ꙋ* (Алекс., 19); кгды по болшей части ѡнꙋю пꙋстыню перебѣглъ, и горы ѡбышол^s ... до паго*р*к*ꙋ* нѣꙗкого пꙋсти*в*шисꙗ наве*р*н*ꙋл*, громад*ꙋ* пꙋстелник*ѡв* ид*ꙋ*чи*х* ѡбачи*л* (Варл., 194). *Параўн.* перебежати *ў 3 знач.*

**3.** *// перан. Перабраць, прагледзець, ацаніць многія рэчы, з'явы і інш.* довтыпнаꙗ теды и мꙋдраꙗ дш҃а перебѣгши вси створеныи речи, не нашла собѣ ѡ*д*почненьꙗ, опрочъ толко в^s Гсдѣ (Мак., 356). *Параўн.* перебежати *ў 5 знач.*

**Перебежати** *дзеясл.* **1.** *Перабегчы (з аднаго месца ў другое), бягом перамясціцца (куды-н.).* кова*л* ... ѡколо сторожи себе самого ве*л*це бы*л* недбалы^s. вдень и вночъ болѣ^s в кузни свое^s перележа*л*. ани*ж*ли бы до це*р*кви перебежа*л* (Зб. 107, 128б—129).

**2.** *Хутка пераехаць, перамясціцца з аднаго месца ў другое.* вито*в*ть послыше*в*шы тое за ѡди*н* де*н* перебежи*т* з гаро*д*на до ви*л*нѩ (Патр. К, 45); даріи то видѩчи ... на ко*н* борздый вспа*д*ши, и перебежи*т* за ти*р* рѣк*ꙋ* (Алекс. 1697, 33).

**3.** *Тое, што і* перебегчи *ў 2 знач.* нево*л*ницы которые хочу*т* ꙋтека*т* з тꙋро*к* лацнѣ^s и*м* про^sде. з романѣи ни*ж* з натолѣи, бо в^s европѣ нема*ш* ѡ*д*но рѣки през которые лацнѣ^s перебежи*т* (Бельск., 411); перебежа*в*ши лито*в*скꙋю и по*л*скꙋю землю, где прибѣ*г* на пꙋстыню (Стрыйк., 456); если се на*м* прида*ст* з би*т*вы ꙋе*ж*ча*т*, не буде*м* мѣли ѩкъ през вод*ꙋ* перебѣжа*т* (Алекс., 14б).

**4.** *Аб'ездзіць многія месцы, пабываць усюды.* ѡни частью всхо*д*ные стороны, частью захо*д*ные, которые на нихъ припали, перешли, и по*л*ꙋденные и по*л*ночные краи перебѣгли, порꙋчоное дѣло выконываючи (Варл., 4).

**5.** *Тое, што і* перебегчи *ў 3 знач.* перебѣжите на свѣти все злое, а ѡбачите же ничого нема*ш* го*р*шог на*д* грѣхъ (Зб. 261, 79); вси писма пога*н*ские перебежавши, трафилъ на книги ст҃ого ева*н*гелиѩ (Пралог, 527б).

**Переберанье** *наз. Перабіранне, сартаванне.* за переберане цеглы хлопцу Максиму асмю шесть (ИЮМ, I, 188, 1681).

**Перебиванье** *гл.* перебыванье

**Перебивати** *дзеясл. Удараючы, пераломліваць.* я тую сеножать покосилъ, але косы его не перебивалъ (АВК, XXI, 43, 1555).

**Перебиватися** *дзеясл. зв. Пераадольваючы цяжкасці, з боем пераходзіць, перапраўляцца праз што-н.* смѣле а нелѧкливе через мур сѧ перебивал (Атыла, 223).

**Перебинда** *наз. Пояс, шнур для падпяразвання адзення, абвязка.* нечесть и соромоту имъ чинили, и рухлядь ихъ розрѣзывали и перебинды (АЗР, II, 357, 1539).

**Перебираючий** *дзеепрым.* ◊ Перебираючий меру — *які робіць лішняе, хапае цераз край.* Ласкосръдый: ... неповстѧгливый, збытній, мѣрꙋ перебираючій в<sup>ѕ</sup> ѣдѣню (Бяр., 70).

**Перебити I** *дзеясл.* **1.** *Забіць, знішчыць усіх, многіх.* оуслышавши героdъ иже корол жидовскій народилсѧ был оу бетлеемъ велѣлъ вси детки перебити (Пак. Хр., 21); всихъ Лифлѧнтъ перебиша (Увар., 107). *Параўн.* перебитися *ў* 1 *знач.*

**2.** *Пазбіваць, пабіць усіх, многіх.* онъ ... люди ему перебилъ и пограбилъ (КЗ, 614, 1495); Кгилюнци людей Войтковыхъ перебили и ѡграбили, и кони въ нихъ поѡтнимали (КСД, 44, 1510); они ... слугъ моихъ перебили (АСД, I, 41, 1536); зъ ручницами, и зъ сагайдаки, зъ рогатинами насъ двадцети человековъ перебили (АВК, XVII, 173, 1540); нашедшы на поле мое пастꙋховъ де<sup>ѕ</sup> перебили (КВС, 533, 1552).

**3.** *Ударыўшы, пераламаць.* онъ перенемши мене на добровольной дорозе безвинне збилъ и руку ми перебилъ (АВК, XVII, 297, 1541); Иванъ Былчичъ ... мене с той сеножати согналъ и косу перебилъ (АВК, XXI, 43, 1555); жидове ... просили пилата абы им голени перебивши познимали (Каз. Кір., 94б); Хавъка татарка того жъ пна Алекъсандра Менчынъского, зраненого, вжо лежачого, з робами своими ему дей руки киими перебила (АВК, XXXI, 149, 1593); клячу ... жеребную, деревомъ наполъ посерединѣ перебилъ (АВК, VI, 127, 1629). *Параўн.* пребити.

**4.** *Ударам раздзяліць на часткі.* маючи Мѡѵисей посохъ в<sup>ѕ</sup> рꙋцѣ своей, которымъ перебилъ море (Хран., 95).

**Перебити II** *гл.* перебыти

**Перебитися** *дзеясл. зв.* **1.** *Тое, што і* перебити I *у* 1 *знач.* тако вси вкупе перебилися суть ровныи ровнаго (Скар. ДЦ, 69).

**2.** *Пераадолеўшы цяжкасці, перайсці, пераправіцца цераз што-н.* карат его гдь бгъ почал, наѧздам, ѡт татаров и иных не-

приꙗтелеѕ, которые сꙗ през дꙋнаѕ перебивши аж до трацыи вдарли (Бельск., 315).

**Перебитый** *дзеепрым.* **1.** *Ад* перебити I *у* 2 *знач.* виделъ есми въ голове ранъ семъ шкодливыхъ, шынами зелезомъ, кийми порубаныхъ и окрутне перебитыхъ (АВК, XX, 273, 1621).

**2.** *Ад* перебити I *у* 3 *знач.* при томъ дей бои тому Лукашу Трумповичу косу перебито наполъ (АВК, XXI, 46, 1555); рука наполы перебита (АВК, XXII, 125, 1560); у руки правой палецъ перебитый до крови, барзо спухлый (АВК, XX, 51, 1585); въ него горло передавлено и нога перебитая (АВК, VI, 64, 1589); въ той же коморѣ окно одно трема шинами перебито (АВК, XIV, 361, 1590).

**Перебитье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* перебити I *у* 3 *знач.* Отъ которого перебитья на томъ же мѣстцу заразъ издохла (АВК, VI, 127, 1629); Келай: Розвѧзꙋючіи, аб сѣкꙋчіи, або перебитье его (Бяр., 286).

**Переблагословити** *дзеясл. Благаславіць (перахрысціць са словамі малітвы) усіх або ўсё.* коли смажоные ꙗгоды з мꙋкою и з дактылы положоно, ѡн также перебл͠гвил (Бельск., 332б).

**Перебракованье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* перебраковати. Напервеѕ перебракование ꙋчынил с посполства; што зацнѣѕшие з рожаю и ꙋродившие и годнѣѕшие ꙋчынил шлꙗхтою и ѡтлꙋчил ѡт простых (Бельск., 145).

**Перебраковати** *дзеясл. Перабраць; перагледзець, адбіраючы лепшае.* там же зараз люде перебраковал семсотъ конеѕ мотлохꙋ до домꙋ вернꙋл, а з тринадцатю сотъ толко зостал (Хр. польск., 16б).

**Перебраный, перебранный** *дзеепрым.* **1.** *Выбраны.* s nimi kilka tysiacz kniażat y paniat, y dworan perebrannych, na pomocz bratu swojemu (Бых., 555); взꙗвши саꙋлъ три тисꙗчи мужевъ перебраных зо всего израилꙗ, пошол шукат д͠вда (Біблія, 341); Древꙗне то ꙋслышавши, з великою радостю выправили ӥ старших до ѡлги з шлꙗхты, албо панов радных перебраных (Стрыйк., 440б); выехал против нему иѡанафан з чотырмадесꙗт тисꙗчъ мужовъ перебраных ку боеви (Кн. Мак., 62—62б); вси мꙋжеве перебраныи збѣглисѧ до негѡ (Хран., 275б); зъехалосе перебраных в наꙋцѣ людеи до него мꙋжеѕ ӥ (Зб. 82, 178б).

**2.** *У знач. наз. Выбраны.* д͠вдъ зобралъ зась потомъ вси перебраныи израйлевы, то есть гетманы из ротмистрами и зо всѣми кнежаты (Біблія, 365).

**Перебрати** *дзеясл.* **1.** *Агледзеўшы, ацаніўшы, выбраць, адабраць (лепшае).* выбрал собѣ жидов пѣших ꙁ҃ тисꙗч ездных велми мало, а з тых перебрал х҃ мꙋжев чистых (Бельск., 217).

2. *Панабраць.* чолнъ за грошей сорокъ куплены а сукъна локъти чотыри Московского Рыжевъского на обликгацѣю листа его перебрати мелъ (ИЮМ, XXXII, 120, 1578); Сопронъ Тубышъ ... з розных часовъ перебралъ у насъ рыбы за сто дватцат гроши литовских (Там жа, 170).

3. *Выбраць цалкам, вычарпаць.* муки тое з пуде*л*ка твое*г* не переберe*ш* (Зб. 752, 346). // *перан.* гда бга которы*ѕ* всѣ*х* живи*т*, человe*к*, сказите*л*ны*ѕ* перебра*т* не може (Бельск., 336б). ◊ П е р е б р а т и  м е р у — *зрабіць лішняе, хапіць цераз край.* мѣрꙋ грѣховъ перебрали, а рꙋки на достоенство Гсдне наложили (Мак., 45). *Параўн.* пребрати.

**Перебратися, перебратисе** *дзеясл. зв.* **1.** *Перабрацца, перамясціцца (куды-н.).* Тогды цеса*р* ... на ѡбѣ рꙋцѣ берꙋчисѧ до броны, але не моглъ се перебра*т* длѧ мнозства трꙋпо*в* (Бельск., 390б).

2. *Ад* перебрати *ў* 3 *знач.* з рꙋкꙋ гсдних ѩ*к* с печи або спижа*р*ни непребрано*ѕ* выходило такъ мно*г* хлѣба и рибъ такъ мно*г*, ижъ перебратисѧ не могло (Зб. 82, 90).

**Перебринути** *дзеясл. Перайсці ўброд.* кготове хотѧчи рекꙋ ѡнꙋю перебринꙋ*т*, жа*д*но*г* конѧ в ню вепхну*т* не могли (Бельск., 324б).

**Переброитися** *дзеясл. зв. Пераправіцца ўброд.* нашолъ кнзь Костенътинъ во*и*ско Моско*в*ское за ѡ*р*шою городомъ за Днепро*м* на рецэ Кропивницы, и переброившысѧ со вси*м* во*и*скомъ и з дѣлы черезъ Днепръ, и вдарылисѧ во*и*ска межы себе (Рач., 347).

**Переброншии** *прым. Лепшы, адборнейшы.* давши емꙋ переброн*ш*и*ѕ* и моцнѣ*ѕ*ши*ѕ* лю*д* каза*л* емꙋ до а*л*вонѣи на ираклиѧ ꙋдари*т* (Бельск., 337б).

**Перебудовати** *дзеясл. Перабудаваць.* тот весъ домъ ... знову своимъ властнымъ грошомъ, працою и накладомъ перебудовал (АВК, XXXIX, 36, 1578).

**Перебыванье, перебиванье** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* перебывати *ў* 1 *знач.* Ловы и оступы въ пущахъ нашыхъ ревизоры з лесъничыми и тежъ осочники ... росъправити и ростесати казати мають на розъные часы для вол[ь]нейшого перебыванья и ведомости о зверу (КПД, 574—575, 1557).

2. *Дзеянне па дзеясл.* перебывати *ў* 2 *знач.* прилꙋчилисе до ни*х* дрꙋгие мѣста кори*н*тус и спа*р*та и ѡсѣли длѧ перебыва*н*ѧ мо*р*ско*г* высопъ Салиминꙋ (Бельск., 163б—164); ѡбачи*в*ши ча*с* по томꙋ и зимꙋ тве*р*дꙋю длѧ перебива*н*ѧ рѣкъ, ѡзе*р*, и бродо*в* (Стрыйк., 490б).

**Перебывати** *дзеясл.* **1.** *Тое, што і* пробывати. подданый небощыковъский, который у дворе часто перебывалъ... на име Степанко Неротлинъ, поведилъ (АВК, XVIII, 205, 1607).

**2.** *// перан. Пераадольваць (небяспеку, цяжкасці і інш.).* велми глыбокой и срогие живота тутошнего валы без небеспеченства перебывал (Пралог, 558).

**Перебыти, перебити II** *дзеясл.* **1.** *Прабыць, правесці пэўны час.* оставивші ихъ, вышолъ вонъ з<sup>s</sup> города до вифании, и перебылъ тамъ (Цяп., 29); з ними ѡт того часꙋ ани ѡдного днѧ не мѣл<sup>s</sup> перебыти (Варл., 327б). *Параўн.* пребыти *ў* 1 *знач.*

**2.** *Пражыць, праіснаваць.* перебꙋдꙋть дни свои оу добрѣ и лѣта свои оу сладостех (Зб. 262, 27б); ввесь вѣк<sup>s</sup> мой зненавидѣлем, который в<sup>s</sup> речахъ порожнихъ стравилем, и до земных прац приложившисѧ, перебылем<sup>s</sup> (Варл., 123). *Параўн.* пребыти *ў* 2 *знач.*

**3.** *Знаходзячыся ў якім-н. месцы, перачакаць пэўны час ці да якой-н. пары.* Тут тепер перебудмо, покол почуемь звитязства кн҃зя московского (Мам., 178).

**4.** *Перабрацца, пераправіцца (цераз што-н.).* не знашолъ начомъ Бугу у перевозовъ перебыти (АВК, II, 217, 1580); Атылѧ ... напоминал жолнере, абы каждыи водле мужства своего старал сѧ через мур перебити а до мѣста воити (Атыла, 223); Тогож рокꙋ алемани з великим людом и прꙋдкостю рен рекꙋ зимѣ замерзлꙋю перебивши до галилеи вторгнꙋли (Бельск., 288); володымер брат в мало<sup>s</sup> дрꙋжинѣ перебывши рекꙋ ѡплаковал на дрꙋгом березѣ (Стрыйк., 465); ѡсадили сво<sup>s</sup> берегъ прꙋсове стрелбою, и копаньем, мосты показивши, там не могли наши перебыт (Хр. польск., 13); скоро перебывши море пришолъ до Капернаꙋмꙋ (Каліст, II, 32); анимъ жадного человѣка видѣла ѡт того часу ꙗкъ иеръданъ перебыла (Пралог, 572б). *// перан. Пераадолець.* темность невѣдомости перебылисмо (Каліст, I, 29); Без<sup>s</sup> Хрста абовѣмъ неподобна комꙋ, море шаленое владзъ темностій, и докꙋчливыхъ покꙋсъ вихрѡвъ перебыти (Мак., 349). *Параўн.* пребыти *ў* 3 *знач.*

**5.** *Пераехаць, перайсці (у якое-н. іншае месца).* скоро потомъ римъ взꙗл, и до сикѣлии перебыл, а десꙗтого живот з царствомъ стратилъ (Пралог, 517).

**Перебытье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* перебыти *ў* 4 *знач.* видꙗчи мо<sup>s</sup>се<sup>s</sup> доброе перебыте мора зшиховал люд израилски<sup>s</sup> на дванадцат ѡбозов (Бельск., 45б); так преложивши гетманы над ѡбоим во<sup>s</sup>ском литовским а жомоитским послали их до рꙋси

на плен*д*рован*е* ѡбачи*в*ши ча*с* потомꙋ и зимꙋ тве*рд*ꙋю длꙗ перебы*т*ꙗ рѣкъ (Стрыйк., 516б).

**Перевага** *наз. Намаганне, напружанне.* Якоѣ працы, горлованья, зъ великою перевагою, его милость панъ Дялыньскій ... въ тыхъ потребахъ обу-двухъ чинилъ, трудно быхъ то вашей королевской милости выписать мѣлъ (АЗР, III, 142, 1568). *Параўн.* превага *ў 2 знач.*

**Переваженье** *наз. Пераважванне (перасяганне вагі на адным баку шаляў).* стоꙗли свѣтлые мужы ... шꙋкаючы што бы на дрꙋгую строну ваги на переваже*н*е ваговъ положы*т* мели (Зб. 752, 39).

**Переважоный** *дзеепрым. Узважаны ўвесь, поўнасцю.* ѡныи посланыи, на вси возы свои ѡно*г* золота набра*в*ши ехали з ни*м* до цесара, которо*г* коли переважоно, было, теды ҏ̃ и п̃ ко*н*тинары[s], было ваги доброи (Бельск., 327).

**Перевалокъ** *наз. Пралом; правал.* Баꙗзе*т* ... моцю и хитро*ст*ю своею розшири*л* границы па*н*ства свое*г*, ѡколо трацѣи працꙋючи всю нема*л*, ѡкро*м* коста*н*тинополꙗ а перева*л*ками бꙋри*л* (Бельск., 406).

**Перевара** *наз. Месца, дзе варылі піва для феадала і яго слуг, якія прыязджалі для збору даніны.* медъ сытити по силѣ съ перевары; а тивуну ѣздити по переваромъ у пятинадцати человѣкохъ (АЗР, I, 53, 1440); на владычина поезника варать пивъ зиме 12 а лете 12, коли они ездять; а подводы беруть съ перевари до перевари (КЗ, 468, 1448).

**Перевареный** *дзеепрым.* **1.** *Звараны, прыгатаваны варкай.* Виѳсфагіа: До*м* оу*ст*, ров*а*, гꙋбы, а*б* до*м* фигъ перевареных (Бяр., 257).

**2.** *Звараны паўторна (для надання мацунку).* взѧти ... ꙗзыко*в* воробьевых. и ꙗдеръ шишечных ... медꙋ пѧть гривенокъ перевареного (Арыст., 213).

**Перевариваный** *дзеепрым. Які падвяргаўся паўторнай варцы (для надання мацунку).* сложеніе легкое поживати ... сахꙋрѫ и медꙋ пресного перевариван*о*г шесть гривенокъ (Арыст., 213).

**Перевевати, перевевать** *дзеясл. // перан. Разбураць, руйнаваць.* то мови*т* гсдь: тыми перевѣва*т* будешъ сирѣю ажъ ю вынищишъ (Біблія, 449); седекѣѧ сынъ ханана оучинилъ собѣ роги желѣзныи, и мовилъ: то мови*т* гсдь: тыми перевевать бꙋдешъ сірію ажъ ю вынищишъ (Хран., 316).

**Перевеваючий** *дзеепрым. Які прадзімае, вее з усіх бакоў (пра вецер).* аг҃глъ гсдній ... выкинꙋлъ поломень огненый з[s] печи, и

ꙋчинилъ середъ печи ꙗкѡ бы вѣтръ росістый перевѣвѣваючій [!] и не доткнꙋлсѧ ихъ згола огонь (Хран., 361). *Параўн.* перевеяючий.

**Переведати** *дзеясл. Тое, што і* проведати *ў* 1 *знач.* емꙋ дороги тамъ пытати не бꙋдеть потреба, бо южъ еи перевѣдалъ (Апакр., 208б).

**Переведеный, перэведеный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* перевести *ў* 2 *знач.* люде *ѡт* оученикѡвъ Хвыхъ половленыи, скоро на свѣтло з *ѕ* темности переведены были (Каліст, II, 106б).

**2.** *Ад* перевести *ў* 4 *знач.* земѧнин которыи дома зосталсѧ и перед гетманом втаил ... а то бы на него было переведено, тогды таковыи хоружиu врад хоружство имене тратить (Ст. 1529—Ф, 28); хъто бы здохлое, шаленое и върoдоватое на продажу прывозилъ, а то на него слушъне переведено будеть, водъле права того скарати горломъ (КПД, 550, 1557); бы того перэд гэтъманомъ не поведал и ꙋтаил а то бы на него перэведено было (Ст. 1566, 24); Хто бы тежъ люди неприꙗтелские в панство нашо великое кнѧзство литовское здрадливе привелъ а то бы на него слꙋшне а справедливе было переведено (Ст. 1588, 3); естли бы такъ же переведено на старосту нашого, хотя однымъ братомъ нашымъ, а мелъ бы то чынити надъ порадокъ нашъ ... маетъ такъ же вины заплатити (ИЮМ, VIII, 235—236, 1597). ◊ П е р е в е д е н ы й  п р а в о м ъ  (с  п р а в а) — *даказаны судовым парадкам.* а то бы на тог хоружог справедливе правомъ было переведно (Ст. 1529—Ф, 25); вина битая, правомъ переведеная — дванадцать грошей (КПД, 547, 1557); хто бы много за мало ꙋпросил а то бы на него слушне с права было переведено (Ст. 1566, 12б).

**3.** *Ад* перевести *ў* 5 *знач.* Езоѳъ тишкевичъ с кимъ право зачато и переведено до тое маетности ниꙗког права собе не прывлащалъ (ККСС, 19б, 1615);

**4.** *Ад* перевести *ў* 7 *знач.* просили есте господаря его милости около даванья пересудовъ и увяжчого, звлаща, отъ таковыхъ рѣчей, которые еще не переведены, одно до права вcказаны (АЗР, III, 100, 1559); хто бы бꙋдꙋчи кому виненъ ꙗкую суму пенезе *ѕ* позычоную на записъ сво *ѕ* або ꙗки *ѕ* ины *ѕ* долгъ *ѡт* кого иного на нем записомъ его и за того хто переводить властнымъ записом переведены *ѕ*, а того бы заплатити не хотелъ (Ст. 1588, 129).

**Переведенье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* перевести *ў* 4 *знач.* тот хто таковых переховываеть за переведеньем правным хотꙗ бы

ему и не были приручоннни винен ѡтыˢскивати (Ст. 1566 I, 104б); за переведенемъ моимъ черезъ одного наменъшого чоловека подвезалъся дей онъ тымъ же листомъ своим вины на врядъ (АВК, XXVI, 103, 1585); врѧд бꙋдеть моцонъ за перевѣденьемъ правнымъ ѡтправꙋ на том же именью ... ꙋчинити (Ст. 1588, 202); ꙋвѣщаніе: Намовлѣне, переведѣнье, оупевнѣнье (Бяр., 176).

**Перевезаный** *дзеепрым. Перавязаны, абвязаны кругом.* виделъ в того чл҃вка ѳедюка на ѡбеюхъ рꙋкахъ вышеˢ локтѧ [раны] синевые веровками перевезано (КВС, 538б, 1552).

**Перевезеный** *дзеепрым. ад* перевезти. ѡн по доконаню валки зас с покоем през море перевезеныˢ ехал до земли своеˢ (Бельск., 405б).

**Перевезенье** *наз. Перавозка, дастаўка якім-н. транспартам з аднаго месца ў другое.* За перевезене дровъ зъ бровару меского у Москаленчихиной дали фурману осмак. шесть (ИЮМ, VIII, 28, 1691). *Параўн.* превезенье.

**Перевезти** *дзеясл. Перавезці (на другі бок чаго-н.), перамясціць цераз што-н.* ѡнˢ же былˢ первеи перевезъ царѧ чересˢ іоръданъ (Скар. ДЦ, 105); невольную жонъку панее Курошовое ... выкралъ и через реку Березыню до Кемей перевезлъ (АВК, XXXVI, 233, 1582); если бымъ я позволилъ оному бурмистрови перевезти оного коморника ... и зъ речами (АВК, VI, 99, 1612); вскочивши вˢ Іерданъ предъ цр҃емъ переправили поромъ, абы перевезли домъ црскім (Хран., 272б); перевезли коней чотырохъ на пароме (ИЮМ, X, 80, 1695).

**Перевезтися**, **перевезтисе** *дзеясл., зв. ад* перевезти. собрашасѧ множество безчисленое поганых и почали мыслити дабы завтра перевезтисѧ (Чэцця, 199—199б); и съимꙋтсь на вельи. вышеи Ковна двѣ мили и тоу перевезѣтсь рат (Віл., 442); пришол до лаѡдоціе а тамо оу соудиноу оусѣдши хотѧ до цилицеі се перевезти (Жыц. Ал., 98); не осталъ естъ ни единыи онˢ же бы сѧ перевезлъ чересъ реку (Скар. ДЦ, 99б); царъ Перекопъскій зъ делы и з гаковъницами перевезъ ся на сюю сторону Днепра (КПД, 28, 1538); я-мъ перевезшися того мужика своего тому тивуну есми приручалъ (АВК, XVII, 96, 1540); О томъ, зь своими нарадившися, собралъ барзо великое войско татар, обѣцуючи имъ великии богатства рускиі, перевезеся через реку Волгу (Мам., 169); тотъ слуга его милости... перевезшысе черезъ реку Волокъ на двуръ мой збегъ (АВК, XVIII, 284, 1625); гды пришли жебы през рѣкꙋ нилъ названꙋю перевезлисѧ встꙋпили в пором (Зб. 107, 69); ходили панове маист-

